Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4873) 3 чэрвеня 2016 г.



# Лета на карысць


*Фота Кастуся Дробава.*

**Як зрабіць, каб лета стала для дзяцей часам не толькі забаў і адпачынку, але і цікавых сустрэч з беларускай культурай? Аптымальны варыянт для бацькоў — разам наведаць новы горад, музей, помнік і прыхапіць з сабой яркую кнігу! Лета — гэта вольнае плаванне ў акіяне літаратуры, але пэўныя арыенціры застаюцца нават у гэты час. Школьнікаў чакаюць не толькі спісы твораў для самастойнага прачытання, але і сустрэчы з пісьменнікамі, запланаваныя ў публічных бібліятэках у час школьных летнікаў. А таксама — дзясяткі іншых нагод кшталту прэзентацыі новых выданняў.**

Непасрэдныя сустрэчы дзяцей і творцаў — карысныя мерапрыемствы, якія нагадваюць пра існаванне беларускай культурнай прасторы, не вельмі блізкай і арганічнай для сучаснай дзятвы. Вясёлы замежны мультфільм ці класіка рускай літаратуры для юнацтва, якая выдаецца стотысячнымі тыражамі, аказваюцца больш дасяжнымі, чым кніга ці тэатральная пастаноўка на беларускай мове. Карэкціраваць сітуацыю ў пэўным сэнсе даводзіцца пісьменніку, які часцей, чым мастак альбо кампазітар, «ідзе ў народ» і наведвае навучальныя ўстановы.

Для таго, каб дзеці захоплена трымалі ў руках беларускія кніжкі, трэба прыкласці нямала намаганняў. Таму выдатна, што супрацоўнікі Нацыянальнага інстытута адукацыі падчас мінулага навучальнага года звярнулі асаблівую ўвагу на неабходнасць знаёмства школьнікаў не толькі з класікай, але і з творамі сучасных аўтараў. Глабальным дыстанцыйным мерапрыемствам стала літаратурная віктарына «Чытацкая культура і культура чытання». У межах праекта «Ад культуры чытання — да культуры асобы» прайшлі дзясяткі «жывых урокаў» з удзелам творцаў. Пісьменнік мае стаць асобай, больш вядомай у грамадстве, і рэгулярныя «школьныя сустрэчы», якія адбываюцца з ініцыятывы розных установаў і арганізацый, спрыяюць дасягненню гэтай мэты.

Некалькі інтэрнэт-конкурсаў Нацыянальнага інстытута адукацыі чакаюць удзельнікаў нават улетку. А пакуль школьнікі прыемна бавяць час, педагогі і метадысты рыхтуюць новыя праекты...

**Працяг — стар. 10 — 11.**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Наталлю Рудневу. «Сваёй шматгадовай творчай дзейнасцю ў Вялікім тэатры Беларусі, талентам, адданасцю беларускаму музычнаму мастацтву Вы заслужылі прызнанне калег і любоў гледачоў як на Радзіме, так і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што яркія вобразы, створаныя Наталляй Рудневай на сцэне опернага тэатра, і шматлікія канцэртныя праграмы па праве ўваходзяць у скарбніцу нацыянальнай культуры.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Валянціну Крыловіч. «Вы заслужылі любоў шматлікіх слухачоў Беларусі і замежжа сваім яркім талентам, шматгадовай плённай дзейнасцю і адданасцю нацыянальнай культуры», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў уручыў дзяржаўныя ўзнагароды больш як 50 прадстаўнікам працоўных калектываў, у тым ліку творчай інтэлігенцыі. Сярод узнагароджаных медалём Францыска Скарыны — актрыса і тэлевядучая Святлана Бароўская, галоўны майстар сцэны тэатра-студыі кінаакцёра Вера Палякова-Макей. Падзяку Прэзідэнта атрымалі галоўны рэдактар «Сельской газеты» Сяргей Міховіч і аглядальнік Аляксандр Шаўко.

✔ Намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Наталля Качанава на гэтым тыдні ўручыла лепшым прадстаўнікам маладога пакалення нагрудныя знакі «Лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў і студэнтаў» і «Лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі». Пры гэтым звярнула ўвагу на тое, што ў Беларусі створаны ўсе ўмовы па падтрымцы таленавітай і адоранай моладзі.

✔ Элемент нематэрыяльнай культурнай спадчыны «Неглюбскія тэкстыльныя традыцыі» папоўніць Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Як паведамляюць у Міністэрстве культуры, рашэнне аб наданні статусу прынята Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радай па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Тэкстыльныя традыцыі вёскі Неглюбка Веткаўскага раёна — унікальная з'ява беларускай народнай творчасці. Амаль паўстагоддзя неглюбскія ручнікі з'яўляюцца візітнай карткай Беларусі.

✔ Самадзейныя артысты маюць шанц гучна заявіць пра сябе сёлета. Каля 2 тысяч артыстаў узялі ўдзел у гала-канцэрце мастацкай самадзейнасці Віцебскай вобласці, які нядаўна адбыўся ў Летнім амфітэатры Віцебска. Напярэдадні маштабны канцэрт прайшоў і на Гродзеншчыне. Як паведамляюць у Міністэрстве культуры, заключныя справаздачныя канцэрты абласных калектываў у межах Года культуры пройдуць па ўсёй Беларусі.

✔ Калекцыя, якая прадстаўляе гарадскую і мяшчанскую культуру другой паловы XIX — першай паловы XX стагоддзяў, экспануецца ў аддзеле старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук. Пабачыць тагачасны гарадскі побыт, які, у адрозненне ад сялянскага, музеі прапануюць нячаста, наведвальнікі маюць магчымасць да сярэдзіны лета.

# Паслядоўнікі Рушчыца



VI Рэгіянальны пленэр-конкурс юных мастакоў, прысвечаны памяці Фердынанда Рушчыца, адбыўся на Валожыншчыне ў аграгарадку Багданава, дзе ў мясцовай школе мастацтваў адкрыўся летась музей знакамітага мастака.

Пленэр — яшчэ адна магчымасць выявіць талент і творчыя здольнасці юных мастакоў. Сёлета ў творчым спаборніцтве бралі ўдзел каля 50 падлеткаў (ад 12 да 15 гадоў) з Мінска, Валожынскага, Вілейскага і Смаргонскага раёнаў і, дарэчы, упершыню — прадстаўнікі Літвы, зазначыў адзін з ініцыятараў правядзення гэтага незвычайнага конкурсу, мастак і педагог, ураджэнец Валожына Алесь Квяткоўскі.

Плануецца, што па выніках пленэру будзе выдадзены каталог работ удзельнікаў, прычым не толькі пераможцаў, але і юных майстроў, чые работы выклікалі сімпатыі ў гледачоў.

# Рэстаўратар, з'явіся!..

**У Беларусі наспела пытанне пра стварэнне сістэмы па падрыхтоўцы спецыялістаў-рэстаўратараў. Такое меркаванне было агучана на калегіі Міністэрства культуры намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Яцко.**

На думку чыноўніка (як паведамляе сайт міністэрства), у краіне складваецца сітуацыя, калі на аб'ектах працуюць непрафесійныя рэстаўратары, якія не маюць належнай кваліфікацыі і ў выніку не могуць да канца выканаць пастаўленыя задачы. Як вынік — не хапае ведаў. Таму ў сучасных умовах спецыялістам у дадзенай галіне абавязкова патрэбна пашыраць як тэарэтычную, так і практычную базу — павышаць кваліфікацыю кожныя пяць год. Раней рэстаўратары атрымлівалі адукацыю ў Маскве, там жа пацвярджалі і катэгорыю. Але ж Аляксандр Яцко ўпэўнены, што ў Беларусі таксама можна рыхтаваць рэстаўратараў, тым больш што ў дзяржаве ёсць патрэбныя ўмовы.

Нацыянальны рэстаўрацыйны цэнтр у Мінску можа быць створаны на базе Нацыянальнага мастацкага музея, які добра абсталяваны тэхнічна. Такую прапанову на калегіі выказаў дырэктар мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# У родны Ігумен вярнуўся

Імя знакамітага ўраджэнца Чэрвеня акадэміка Давыда Голуба на яго малой радзіме ведаюць і памятаюць. Турбавалася, каб ён вярнуўся сюды: у 2009-м — у назве вуліцы, а зусім нядаўна — у мармуры мемарыяльнай дошкі.



Сярод прыгожых, але нешматлікіх пакуль дамоў аднабаковай вуліцы яго імя на ўскрайку Чэрвеня, старажытнага Ігумена, вылучаецца другі па ліку будынак. Ажурная коўка, памятная дошка… Так ушанавалі вучонага-земляка праз амаль 115 год з дня яго нараджэння.

Падчас урачыстасці прарэктар па выхаваўчай рабоце Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта і ўраджэнец тутэйшых мясцін Уладзімір Манулік патлумачыў, што ідэя зрабіць мемарыяльную дошку з'явілася сама па сабе. Бо выдатны вучоны, Чалавек з вялікай літары, які больш як 40 год аддаў служэнню навуцы, справе падрыхтоўкі ўрачоў і амаль паўстагоддзя працаваў ва ўніверсітэце, сапраўды дастойны гэтага.

Агульнымі намаганнямі такі знак павагі з'явіўся. А ўвасобіў яго ў бронзе і мармуры заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесар, загадчык кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Слабодчыкаў.

**Святлана АДАМОВІЧ, фота аўтара**

# Дынамічнае ўзаемадзеянне

## Славеснае і візуальнае ў творчасці ізраільскіх мастакоў-ілюстратараў

Выстаўка ілюстрацый да ізраільскіх дзіцячых выданняў «Я адсюль» прадстаўленая ў мастацкай галерэі «Дом карцін». Экспазіцыя ахоплівае перыяд развіцця ізраільскай ілюстрацыі з 1948 па 2014 гады і дэманструе вялікі досвед і своеасаблівы падыход мясцовых мастакоў-ілюстратараў да дзіцячай літаратуры.

Арганізатарам выставачнага праекта «Я адсюль» у Мінску выступіла вядучы ізраільскі графічны дызайнер і ілюстратар Ліёра Гросман. Для падрыхтоўкі аўтарскага праекта яна ўзяла за аснову свецкую літаратуру на іўрыце. Спачатку разглядала і рэлігійную дзіцячую літаратуру на арабскай мове, але пасля змяніла рашэнне, бо зразумела, што недастаткова тонка адчувае і разумее яе. Пры падрыхтоўцы выстаўкі асноўнай мэтай Ліоры Гросман было зразумець і прадэманстраваць гледачу, якім чынам гісторыя і культура Ізраіля з часам адлюстроўвалася ў дзіцячых кнігах і як за дастаткова вялікі прамежак часу ў вачах ілюстратараў змянілася бачанне краіны.

Ізраільскія бацькі вельмі адказна і трапятліва ставяцца да выхавання дзетак. Яны актыўна працуюць над развіццём інтэлекту малых з самага нараджэння. Таму літаратура для іх не проста займальнае чытво вясёлых казак дзіцяці на ноч, але і якасны дапаможнік у спазнанні малымі мясцовай культуры, вывучэнні традыцый і ўспрыманні неабходных правілаў паводзін у асяроддзі. Ізраільскія мастакі-ілюстратары, працуючы над афармленнем выдання, максімальна арыентуюцца на ўзаемадзеянне славеснага і візуальнага фактараў. Калі працуюць над інтэрпрэтацыяй прадстаўленага тэксту, то глыбока ўдумваюцца ў кожны слой твора. Спачатку фарміруюць вобраз галоўнага героя. Калі гэта дзіця, то адразу неабходна знайсці пытанні на адказы: адкуль яно, хто яго бацькі, што цікавіць маленькага і які ўклад ён уносіць у развіццё мастацкага сюжэта.

У экспазіцыі прадстаўлены не кніжкі, да якіх можна дакрануцца і адчуць непаўторны пах бялюткіх старонак, а вялікія стэнды з ілюстрацыямі з разнастайных дзіцячых выданняў. Кожны стэнд дэманструе своеасаблівую падачу сюжэта кнігі. Напрыклад, стэнд пад назвай «Дом» паказвае, як у большасці старэйшых дзіцячых выданняў унутранаму афармленню жылля надзялялася не шмат увагі: апісваліся адзін альбо два прадметы мэблі. А ў сучаснай літаратуры важнае месца займаюць дэталі месца, дзе дзіця бавіць час. Гэта можа быць нават не асабісты пакой, а больш шырокая прастора — квітнеючы сад альбо дзіцячая пляцоўка. Важна, каб маленькія змаглі ўявіць сябе на месцы галоўнага героя.

На стэндзе «Буднак» можна назіраць, як сучасныя ізраільскія ілюстратары падыходзяць да афармлення гарадскіх вуліц.

Горад і вёска — значныя тэмы дзіцячых ілюстрацый ізраільскіх мастакоў. Калі ў тэксце гаворка вядзецца пра пэўны горад, то ён павінен быць насычаны знаёмымі сімваламі — помнікі, скверы, вакзалы… А вось сімвалы вёскі ў дзіцячай літаратуры ніяк не звязаны з сучаснай ізраільскай вёскай. Ілюстратары выкарыстоўваюць традыцыйныя сімвалы вясковай мясцовасці, якія практычна не адрозніваюцца ад сімвалаў мінулых гадоў.



*«Зусім адзін у яўрэйскім квартале», аўтар Ора Мораг, ілюстратар Міхель Кічка, 1985 г.*

Адна з самых цікавых фішак аўтарскага праекта «Я адсюль» — стэнд з галоўнымі героямі дзіцячых кніжак Ізраіля, пачынаючы ад 1948 года. Не трэба нават прыглядацца, каб убачыць, наколькі адрозніваюцца сучасныя героі ад тых, што былі раней. Каляровае афармленне і эстэтыка сюжэта — усё па-іншаму. Не змянілася толькі адно — добры і шчаслівы выраз твараў у герояў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Беларусь — Азербайджан: прастора перакладу


Фота Ганны Багіно.

Падчас «круглага стала».

Калі прыглядзецца, беларуская і азербайджанская літаратуры ў чымсьці вельмі падобныя. Абедзве, прыкладам, у сваім развіцці прайшлі перыяд двухмоўя: на першую моцны ўплыў аказала рускае мастацтва слова, на другую — персідскае. Сучасная азербайджанская літаратура таксама шматжанравая: і дэтэктыў, і фантастыка, і ўсходнія сюррэалістычныя ды міфалагічныя сюжэты.

Выдавецкі дом «Звязда» робіць стратэгічныя захады ў падтрыманні літаратурнага дыялогу паміж Беларуссю і Азербайджанам. Так, пазалетась тут пабачыла свет кніга азербайджанскай пісьменніцы Севіндж Нурукызы «Базгулаг і поры года» ў перакладзе на беларускую Алеся Карлюкевіча і Рагнеды Малахоўскага. Акрамя таго, азербайджанская літаратура шырока прадстаўлена на інтэрнэт-партале «Сугучча» Выдавецкага дома «Звязда». На азербайджанскую перакладзены творы Алеся Бадака і Алеся Карлюкевіча, а сёння рыхтуецца да выдання зборнік сучаснай беларускай паэзіі ў перакладзе на азербайджанскую.

Беларуска-азербайджанскае перакладчыцкае партнёрства і гэтым разам апынулася ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў «круглага стала» пад назвай «Беларусь — Азербайджан: вопыт літаратурнага сяброўства». У нашай краіне вывучэнню і перакладам твораў усходніх літаратур сёння ўвогуле надаецца вялікая ўвага, заначыла мадэратар «круглага стала», паэтэса, перакладчыца, адказны сакратар часопіса «Полымя» Юлія Алейчанка.

Літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуразнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Яўген Гарадніцкі звярнуўся да кнігі «Знічкай цябе я пакіну», куды ўвайшлі вершы Чынгіза Алі аглу ў перакладах Міколы Мятліцкага, Віктара Гардзея, Навума Гальпяровіча, Таццяны Сівец, Рагнеда Малахоўскага ды іншых айчынных паэтаў.

— Пры паглыбленым вывучэнні ўзаемадзеяння і тыпалогіі літаратур, параўнанні творчасці пісьменнікаў дзвюх краін пажадана ведаць мову арыгінала. Чытаючы творы азербайджанскіх аўтараў, мы спазнаём жыццё гэтага народа, спосабы мастацкага самавыяўлення, паэтыку, мову, — упэўнены навукоўца.

Праз літаратурныя творы можна азнаёміцца з культурай і традыцыямі народа. Зрабіўшы кароткі экскурс у гісторыю літаратуры Азербайджана, кіраўнік Цэнтра азербайджанскай мовы і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Салатын Мірзоева распавяла, што ў цэнтры беларускія студэнты не толькі вывучаюць азербайджанскую мову, літаратуру, культуру, але і танцуюць нацыянальныя танцы. У сваю чаргу, пры Бакінскім славянскім універсітэце створаны Цэнтр беларускай мовы і культуры, з дапамогай якога азербайджанскія студэнты маюць магчымасць далучыцца да беларускага слова.

Вялікі досвед у справе перакладу з азербайджанскай мовы мае айчынная пісьменніца Таццяна Сівец, якая перастварыла па-беларуску лірыку Чынгіза Алі аглу, Лейлы Аліевай, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяра Вагабзадэ. Дарэчы, Ісфандзіяр Вагабзадэ займаецца перакладамі твораў беларускіх паэтаў на азербайджанскую мову.

Распавядаючы пра свой досвед перакладу ўсходніх літаратур, у тым ліку апавядання «Аднавухі» Кяміля Афсаргау, празаік і перакладчыца Ірына Качаткова прадставіла кнігі, перакладзеныя ёю ў розныя гады: «У плыні гісторыі» Нурсултана Назарбаева (2002), «Кыргызская дзяржаўнасць і народны эпас "Манас"» Аскара Акаева (2003), «Подзвіг Эмамалі Рахмона» (2012) і зборнік апавяданняў «Жыццё не спыняецца» (2013) Ато Хамдама.

*«Голас горкі, пранізлівы, тонкі / Дастае, што нікуды не збоч. / Ён царапае мне перапонкі. / Хто там плача, хаваецца ў ноч?»* Гэта — радкі перастворанага паэтам, галоўным дырэктарам замежнага вяшчання Беларускага радыё Навумам Гальпяровічам верша Чынгіза Алі аглу «Хто там плача ўначы?» з кнігі «Знічкай цябе я пакіну». Кранальныя элегічныя радкі… Паэты розных краін падсвядома разумеюць адзін аднаго, размаўляючы на ўзроўні пачуццяў.

**Яна ЯВІЧ**

## Дайджэст

• Супрацоўнікі музея міграцыі ў Гдыне (Польшча) стварылі сайт, дзе польскія эмігранты могуць распавядаць свае гісторыі. Афіцыйна ён распачаў працу ў дзень Палоніі і палякаў, якія жывуць на тэрыторыі іншых краін. Галоўная задача сайта — стварыць спецыяльны архіў эмігранта, дзе будуць задакументаваныя аповеды, інтэрв'ю, відэаролікі. Архіў ужо атрымаў гісторыі з 28 краін, большую частку якіх пакінулі эмігранты з ЗША. Ёсць матэрыялы з Саудаўскай Аравіі і нават Ліберыі. Удзел у праекце ўзялі і знакамітасці: прэзідэнт Футбольнай асацыяцыі Польшчы Збігнеў Бонек, рэжысёр Агнешка Халанда.

• Новазеландская пенсіянерка затрымала бібліятэчную кнігу больш як на паўстагоддзя. «Міфы і легенды маоры» яна ўзяла ў 1948 годзе, калі яшчэ вучылася ў школе. Кніга так ёй спадабалася, што цягам 67 гадоў жанчына перачытвала яе мноства разоў. Па словах зацятай чытачкі, яна пастаянна збіралася вярнуць выданне ў бібліятэку, але ніяк не магла наважыцца. У выніку пратэрміноўка склала 24 605 дзён. Жанчыну мог чакаць немалы штраф, каля 17 тысяч долараў ЗША, але ад выплаты пені яе ўратавала тое, што кнігу яна ўзяла яшчэ непаўналетняй.

• Філіял маскоўскага музея Міхаіла Булгакава адкрыўся 14 мая на Вялікай Пірагоўскай, у кватэры, дзе пісьменнік стварыў свае самыя вядомыя работы (сярод іх — раман «Майстар і Маргарыта», п'еса «Бег»). Менавіта на гэтую кватэру Міхаілу Булгакаву тэлефанаваў Сталін. Наведнікі змогуць пабачыць не толькі прадметы быту, але і рэдкія рукапісы, у тым ліку першую рэдакцыю «Майстра і Маргарыты».

• Каманда мастакоў з Францыі стала сусветным рэкардсменам па памерах комікса: яны стварылі работу ў гэтым жанры даўжынёй 1625 метраў. Так французы пабілі рэкорд амерыканцаў, якія ў Нью-Ёрку стварылі комікс на 1200 метрах палотнішча. Унікальная работа распавядае гісторыю дзяўчынкі Леі, якая падарожнічае ў часе. Чароўнае пёрка перамяшчае яе ад Ледавіковага перыяду да 10 000 года. Пабачыць комікс можна ў Ліёне — ён быў створаны тут падчас ліёнскага фестывалю гумару.

• Маскоўскі пенсіянер зарабіў на «Бесах» Дастаеўскага два мільёны рублёў. Пачалося з таго, што ў адной з газет ён прачытаў паведамленне: на аўкцыёне «Літфонду» было прададзена за тры з паловай мільёны рэдкае выданне гэтага рамана. Размова ішла пра надзвычай рэдкую кнігу 1935 года, амаль увесь наклад якой быў знішчаны яшчэ да таго, як патрапіў на паліцы кнігарняў (савецкая ўлада палічыла змест кнігі ідэалагічна шкодным). «Літфонд» таксама паведаміў, што гэты экзэмпляр — адзіны ў Расіі, ён быў вынесены з тыпаграфіі. Пасля гэтага пенсіянер вырашыў даследаваць сваю багатую бібліятэку і нечакана знайшоў такі ж самы сігнальны экзэмпляр «Бесаў». Са знаходкай ён накіраваўся ў аўкцыённы дом, дзе кнігу прызналі сапраўднай. У выніку пенсіянер атрымаў два мільёны рублёў наўзамен ста, якія ён аддаў за выданне на пачатку дзевяностых.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Святланы Міхайлаўны БАСУМАТРАВАЙ і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

## У пісьменніцкім асяродку

# Чытанне для роздуму

➢ На самым пачатку школьных канікул дзецям не даў засумавацьфестываль дзіцячага чытання «Пусть всегда будет солнце!» у сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 4, праведзены сумесна з Выдавецкім домам «Звязда». Распачаўся ён прэзентацыяй дзіцячых кніг пісьменніцы Яны Явіч «Уцёна хоча ведаць» і «Самыя кветкавыя сны», якія прадставіла сама аўтарка.

Супрацоўнікі кніжніцы на чале з загадчыцай Наталляй Отчэскай ператварылі бібліятэчны інтэр'ер і прылеглую тэрыторыю ў творчую майстэрню. Тут працавала шмат фестывальных пляцовак, дзе сваімі рукамі можна было і стварыць хатні абярэг — ляльку-куватку, і скласці арыгамі, а яшчэ — паўдзельнічаць у конкурсе малюнкаў на асфальце, паглядзець выстаўку «Свет лялек», кніжную экспазіцыю, прысвечаную рукадзеллю, набыць дзіцячыя кнігі, што пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда»… Такія кніжныя фэсты будуць ладзіцца яшчэ неаднойчы!

➢ *«Дарожнай мудрасцю багаты, / прыйшоў да думкі чалавек: / Усе шляхі вядуць дахаты, / Выток шануючы спрадвек».* Лірыка Уладзіміра Мазго — вытанчаная, пранікнёная, роздумная… Сам паэт вылучае ва ўласнай творчасці тры асноўныя кірункі: паэзія, дзіцячая літаратура і песенная творчасць. Гэтым разам Уладзімір Мазго, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман», старшыня бюро секцыі дзіцячай літаратуры СПБ, стаў галоўным героем новай пастаноўкі Мінскага гарадскога тэатра паэзіі ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, якім кіруе старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Уладзімір Мінавіч з цёплынёй узгадаў людзей, якія пайшлі з жыцця, але адыгралі вялікую ролю ў яго лёсе: выкладчыцу БДУ Маргарыту Яфімаву, кіраўніка ўніверсітэцкага літаб'яднання «Узлёт» Алега Лойку, эстраднага спевака Якава Навуменку, кампазітара Уладзіміра Будніка…

Са сцэны прагучалі вершы Уладзіміра Мазго ў выкананні артыстаў эстрады Вольгі і Адрыяна Багушынькіх. Песні на вершы творцы выканалі спявак Леанід Нікольскі і кампазітар Алег Елісеенкаў.

➢ У апошнія дні навучальнага года «Урок мужнасці», прымеркаваны да 75-й гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны, для школьнікаў правялі сталічныя творцы, якія завіталі ў літаратурную гасцёўню «Сугучча» на базе СШ № 77 з музычным ухілам.

Настаўніца беларускай мовы і апякунка краязнаўчага школьнага музея Любоў Клімовіч ды галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення СПБ паэтэса Іна Фралова ўдала спалучылі літаратурную частку з тэматычнай відэапрэзентацыяй і музычнымі нумарамі.

Ніна Галіноўская прадставіла школьнікам сваю кнігу «Няма даравання вайне» з серыі «Дзеці вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці». З гэтай жа серыі — і кніга Міколы Чарняўскага «На плошчы памяці маёй».

Пра творчую спадчыну паэтаў-франтавікоў нагадала загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка. А завяршылася імпрэза вершамі паэтэсы Аліны Легастаевай у аўтарскім выкананні.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Дакрануцца да мары

### У шосты раз падвёў вынікі літаратурны конкурс «БрамаМар»

Удзел у ім — выдатны шанс для студэнтаў і вучняў 9 — 11 класаў паказаць усёй краіне свае мастацкія здольнасці. Ацэньвалі працы ўдзельнікаў, як заўсёды, вядомыя пісьменнікі, аўтарытэтныя крытыкі і літаратуразнаўцы. Яны ж правялі карысныя майстар-класы, якія сталі новым штуршком у творчым развіцці ўдзельнікаў «БрамаМар».

Конкурс праходзіць у два туры. Спачатку ўдзельнікі дасылаюць свае творы ў абраную намінацыю — «Проза», «Паэзія» ці «Фантастыка» (можна дасылаць хоць ва ўсе намінацыі адначасова), а журы абірае 10 фіналістаў. Падчас другога тура фіналісты выконваюць заданні журы. Тры гады таму на выкананне давалі два-тры тыдні, але праз гэта гублялася шмат фіналістаў, таму сёлета вырашылі праводзіць другі тур ужо непасрэдна ў дзень фіналу — атрымалася лепш. Сябры журы па кожнай намінацыі даюць невялікае заданне і ўдзельнікі яго выконваюць. Адразу відаць, хто чаго варты. Аналізуючы творы першага і другога тура, абіраюць пераможцаў.

Сёлета геаграфія конкурсу значна пашырылася: Хоцімск, Магілёў, Ліда, Бяроза, Брэст, Полацк. Шмат удзельнікаў было з вёсак і пасёлкаў гарадскога тыпу.

**Пераможцы сярод школьнікаў:**

у намінацыі «Проза» — Любоў Бельская,
«Паэзія» — Юлія Ратушнюк,
«Фантастыка» — Кацярына Рудазуб.

**Пераможцы сярод студэнтаў:**

у намінацыі «Проза» — Аліна Длатоўская,
«Паэзія» — Яўген Чукаў,
«Фантастыка» — Цімур Буйко.

Арганізатары запэўніваюць: «БрамаМар» робіцца не для гонару, універсітэта, моды ці галачкі — менавіта для юных майстроў пяра.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Заканчэнне. Пачатак у нумары 21 на стар. 4.

# З Масквою звязана жыццё і творчасць

БУДЗІНАС Яўген, рускі і беларускі пісьменнік-публіцыст, нарадзіўся ў Маскве 18 лютага 1944 г. Там жа выдаў свае першыя кнігі «Адзін практычны крок» (1983) і «Дом у сельскай мясцовасці» (1985).

БУЙЛО (Буйла) Канстанцыя, беларуская паэтэса, асноўную частку жыццёвага шляху правяла ў Маскве. Нарадзілася ў Вільні 2 студзеня 1893 г. Першы яе зборнік вершаў, «Курганная кветка», рэдагаваў Янка Купала. У Першую сусветную вайну аказалася ў бежанстве. З 1923 г. пражывала ў Маскве, у завулку ЦІХВІНСКІМ (дом. 11, кв. 23), дзе бывалі Янка КУПАЛА і яго жонка Уладзіслава. Пасля незаконнага арышту яе мужа, Віталя Калечыца, працавала на заводзе «Аграном», потым у трэсце Саюзветлаб. У Маскве выйшлі з друку ў перакладзе з беларускай мовы зборнікі яе вершаў «Ля ляснога возера» (1958), «Раніца ў лесе» (1958), «Пішу табе» (1971). Памерла ў Маскве 4 чэрвеня 1986 г. Спачатку там жа і пахавана, але ў 1989 г. урна з яе прахам была перавезена ў в. Вішнева Мінскай вобл.

БУРСАЎ Іван, беларускі і рускі паэт і перакладчык, з 1965-га жыве ў Маскве. Працаваў у выдавецтве «Молодая гвардия». Выдаў у Маскве зборнікі вершаў «Близкие зорки» (1960), «Прыгаршня» (1970), «Серада» (1972), «Свята святла» (1976), «Кола» (1986) і інш.

БУР'ЯН Барыс, рускі і беларускі празаік і тэатральны крытык, нарадзіўся ў Маскве 7 студзеня 1924 г. Аўтар рускіх аповесцей «Ля сіняй бухты» (1959), «Вальс Грыбаедава» (1960) і інш. Памёр у кастрычніку 2009 г.

БУТРАМЕЕЎ Уладзімір, рускі і беларускі празаік і драматург, у апошні час жыве ў Маскве. Нарадзіўся 20 сакавіка 1953 года на Магілёўшчыне. У 1985 — 1987 і 1989 — 1991 гг. вучыўся ў Маскве на Вышэйшых двухгадовых курсах сцэнарыстаў і рэжысёраў і на Вышэйшых літаратурных курсах. У Маскве выдадзены яго аповесці і апавяданні «Любіць і верыць», «Зрух», раман «Карона Вялікага Княства». Апошняе вядомае маскоўскае месца працы — каардынатар-рэдактар энцыклапедычнага праекта выдавецтва «Олма-Прэс».

ДРАКАХРУСТ Аляксандр, рускі паэт, нарадзіўся 7 лістапада 1923 г. у Маскве ў сям'і ваяўскоўца, якога потым скіравалі на службу ў Беларусь. Дзяцінства Аляксандра прайшло ў Магілёве і Бабруйску. З 1964 г. жыў у Мінску, дзе выйшла сем яго вершаваных зборнікаў. У Маскве выдадзены яго зборнік паэзіі «Мяняе час каравулы» (1961). Памёр 14 лістапада 2008 г.

ЗАРЫЦКІ Аляксей, беларускі паэт і перакладчык. Нарадзіўся 9 сакавіка 1911 года ў Хоцімску. Восенню 1931 г. пераехаў з Мінска ў Маскву, дзе працаваў электрамантажнікам на аўтазаводзе. У 1932 г. паступіў на нямецкі факультэт Маскоўскага інстытута замежных моў, пасля яго заканчэння быў пакінуты там асістэнтам. Сябраваў з маладым Аляксандрам Твардоўскім. У вайну ўдзельнічаў у абароне Масквы. З 1946 г. у Мінску, дзе выдаў каля 10 зборнікаў вершаў, многа перакладных кніг. Памёр 29 кастрычніка 1987 г.



*Алесь Кажадуб са сваёй кнігай «Элексір жыцця».*

КАВАЛЁЎ Дзмітрый, рускі і беларускі паэт і перакладчык, працяглы час жыў у Маскве. Нарадзіўся 4 чэрвеня 1915 г. у Ветцы на Гомельшчыне. На Палессі пачаў творчы шлях. Пасля заканчэння ў 1957 г. Вышэйшых літаратурных курсаў пры Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага застаўся ў Маскве, працаваў у выдавецтве «Молодая гвардия». Жыў на вуліцы БЕГАВАЯ. Выдаў каля 20 кніг паэзіі, з іх два зборнікі выбранай лірыкі: «Гады» (М., 1971) і «Мой час» (1977). Памёр 5 сакавіка 1977 г., пахаваны на Ваганькаўскіх могілках.

КАГАНЕЦ (Кастравіцкі) Карусь, беларускі празаік, у 1885 г. паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, лепкі і дойлідства, але з-за адсутнасці сродкаў не скончыў яго. К. Каганец нарадзіўся 29 студзеня 1868 г. у Табольску ў сям'і ссыльнага ўдзельніка паўстання 1863 г. Яго блізкім сваяком быў французскі паэт-мадэрніст Гіём Апалінэр (Кастравіцкі). Творчы шлях беларускага пісьменніка прайшлі ў в. Прымагілле ля Койданава, дзе ён 25 мая 1918 г. памёр і пахаваны.

КАЖАДУБ Алесь (Аляксандр), рускі і беларускі празаік, з 1985 г. стала пражывае ў Маскве. Нарадзіўся 29 верасня 1952 г. у Ганцавічах Брэсцкай вобл. У 1983 — 1985 гг. вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. У 1989 г. там жа выйшла яго першая маскоўская кніга — аповесці і апавяданні «Высока сонейка, высока» (1989). Рэдагуе штомесячную беларускую старонку «Лад» у «Литературной газете», перакладае з беларускай мовы.

КАЗАКОЎ Валерый, рускі і беларускі празаік, паэт, публіцыст, дзяржаўны дзеяч, пражывае і працуе ў Маскве, узначальвае Федэрацыю грамадска-культурных аўтаноміі «Беларусы Расіі». Нарадзіўся ў кастрычніку 1952 г. на станцыі Рэста Магілёўскай вобл. У Маскве закончыў Вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Кандыдат сацыялагічных навук. З'яўляецца дзейсным дзяржаўным дарадцам Расійскай Федэрацыі, сакратаром Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, узнагароджаны яго Вялікай літаратурнай прэміяй. Аўтар паэтычнага зборніка «Філасофія гука», кніг публіцыстыкі і прозы «Разбітае люстэрка Карабаха», «Асфальт і цені», «Самаразбурэнне», «Запіскі каланіяльнага чыноўніка», «Сон у бяссонніцу», рамана «Халопы». У 2008 г. у Мінску выйшла першая беларуская кніга В. Казакова «Цень гобліна». Уваходзіць у шэраг грамадскіх арганізацый Беларусі.

КАНЭ Юлія, беларуская і ізраільская пісьменніца і журналістка, нарадзілася 21 жніўня 1931 г. у Маскве ў сям'і інжынера. Летам 1941 года пераехала з бацькамі ў Мінск. У 1954 г. закончыла аддзяленне журналістыкі БДУ. Аўтар манаграфіі «Янка Брыль» (1964). Удава літаратуразнаўца Рыгора Бярозкіна. У апошнія гады жыла ў Ізраілі.

КАРАТКЕВІЧ Уладзімір, беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст, у 1958 — 1962 гг. знаходзіўся ў Маскве, дзе закончыў Вышэйшыя літаратурныя і сцэнарныя курсы. Нарадзіўся 26 лістапада 1930 г. у Оршы. Закончыў Кіеўскі ўніверсітэт, пасля чаго настаўнічаў у Тарашчы ва Украіне і ў Оршы. Знаходзячыся ў Маскве, дзякуючы знаёмству з выкладчыцай курсаў, мастацтвазнаўцай Нінай Молевай, грунтоўна пазнаёміўся з рускай культурай, прысвяціў ёй не помнікам нямала вершаў, сам пачаў пісаць на рускай мове. Усё гэта апісаў у рамане «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца на зямлю»), дзе Н. Молева выведзена ў вобразе Горавай. Потым, жывучы ў Мінску, У. Караткевіч часта наведваў Маскву з рознай нагоды. Памёр 25 ліпеня 1984 г. Вядучыя творы пісьменніка перакладзены на рускую мову (пераважна жыхаркай Масквы Валянцінай ШЧАДРЫНОЙ), неаднаразова выдаваліся ў Маскве.

КАЎКА Аляксей, беларускі і рускі літаратуразнавец, жыве ў Маскве. Нарадзіўся 20 верасня 1937 г. у вёсцы Равіцкі Бор (цяпер Машчаліна) Чэрвеньскага раёна Мінскай вобл. Вучыўся ў БДУ, Акадэміі грамадскіх навук. Расійскі дыпламат у Варшаве. У 1988 г. узначаліў Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны. Доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага РАН, аўтар некалькіх манаграфій па гісторыі беларускай літаратуры, выдавец штогодніка «Скарыніч».

КІСЛІК Навум, рускі і беларускі паэт, перакладчык, журналіст, нарадзіўся ў Маскве 26 кастрычніка 1925 г. у сям'і рабочага. У 1946 г. паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Пасля яго заканчэння працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», іншых выданнях. Зборнікі паэзіі Н. Кісліка «Успаміны пра вакзалы» (1976), «Зімовае свята» (1985) выдадзены ў Маскве. Памёр 27 снежня 1998 г.

КОЛАС Якуб (Міцкевіч Канстанцін), адзін са стваральнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай мовы, двойчы лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, народны паэт Беларусі, акадэмік АН Беларусі, заслужаны дзеяч Беларусі, неаднаразова наведваў Маскву і пражываў там працяглы час. Нарадзіўся 22 кастрычніка 1882 г. у засценку Акінчыцы на Стаўбцоўшчыне. Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе ён пазнаёміўся з рускай класічнай літаратурай, настаўнічаў у Беларусі.

Як паведамляў М. Лужаніну Я. Колас, упершыню ён прабываў у Маскве ў верасні-снежні 1915 г., калі служыў у 55 запасным пяхотным батальёне ў раёне Замаскварэчча. 26 студзеня 1927 г. быў выбраны правадзейным членам Таварыства аматараў расійскай славеснасці пры Маскоўскім універсітэце (таварыства дзейнічала ў 1811 — 1930-х гг.). 20 кастрычніка 1936 г. прысутнічаў у Маскоўскім доме пісьменніка на ўрачыстым вечары, прысвечаным 30-годдзю яго творчай дзейнасці; з дакладам выступіў Аляксей Суркоў, юбіляра віталі Дзям'ян Бедны, Янка КУПАЛА, Абулькасім Лахуці. 25 лістапада — 5 снежня 1936 г. разам з Я. Купалам з'яўляўся дэлегатам Надзвычайнага VIII з'езда Саветаў СССР, на якім была прынята новая Канстытуцыя СССР. 29 студзеня — 8 лютага 1939 г. удзельнічаў разам з Я. Купалам, П. Броўкам, К. Крапівой, З. Бядулем, А. Куляшовым, П. Глебкам і інш. у маскоўскіх вечарах беларускай культуры ў сувязі з 20-годдзем БССР: 29 студзеня — у клубе пісьменнікаў, 30 — у клубе МДУ, 31 — у Палацы культуры аўтазавода, 1 лютага — у Політэхнічным музеі, 2 — у рэдакцыі «Праўды», 3-га адбылася сустрэча з артыстамі Малога тэатра. У чэрвені 1940 г. Я. Колас разам з Я. Купалам удзельнічаў у Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве: 13 чэрвеня адбылася нарада Праўлення ССП СССР, 16 — сустрэча на сельгасвыстаўцы, дзе Я. Колас чытаў свае вершы, 17 — прыём у Крамлі, 18 — сустрэча ў Цэнтральным парку культуры і адпачынку імя А. М. Горкага.

У час Вялікай Айчыннай вайны Я. Колас часта прыязджаў у Маскву з Падмаскоўя, Ташкента, а потым і з Мінска. Так, 9 лютага — 4 сакавіка 1942 г. ён жыў у гасцініцы «Масква» (пакой 1049), з 21 сакавіка да 6 красавіка (да звароту ў Ташкент) — у тым жа нумары разам з Кандратам Крапівой. У лютым і маі 1943 г. прыязджаў, каб удзельнічаць у рабоце пленума ССП СССР, Камітэта па Сталінскіх прэміях, зноў жыў у той жа гасцініцы. 17 студзеня 1945 г. слухаў у Вялікім тэатры оперу «Іван Сусанін». 11 лютага 1945 г. у гасцініцы «Якар» сустракаўся з геолагам Г. Гарэцкім.

У пасляваенныя гады Я. Колас часта выязджаў у Маскву па дзяржаўных і грамадскіх справах, удзельнічаў у сесіях Вярхоўнага Савета СССР і пленумах ССП СССР, жыў пераважна ў гасцініцы «Масква» (лістапад 1945 г. — у нумары 918, верасень 1946 г. — у нумары 317), радзей — у «Метраполі». 24 кастрычніка 1946 г. у Маскоўскім клубе пісьменнікаў адбыўся вечар, прысвечаны 40-годдзю яго творчай дзейнасці; Я. Колас чытаў на ім урыўкі з паэмы «Рыбакова хата», 23 студзеня 1949 г. у складзе дэлегацыі (К. Крапіва, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Глебка, М. Лужанін, Я. Брыль, І. Шамякін, І. Мележ і інш.) выехаў з Мінска ў Маскву на Дэкаду беларускай літаратуры. 25 студзеня ў Цэнтральным доме літаратара адбылося яе ўрачыстае адкрыццё. Уступнае слова сказаў Аляксандр Фадзееў, а Я. Колас чытаў свае вершы. 29-га выступіў з чытаннем іх у Акадэміі грамадскіх навук. Потым, знаходзячыся ў гасцініцы «Масква», захварэў на запаленне лёгкіх.

У Маскве ў розныя гады жылі і працавалі, вучыліся беларускія пісьменнікі Алесь Адамовіч, Галіна Булыка, Леанід Галубовіч, Іван Пяшко, Алесь Рыбак, Людміла Рублеўская, Алесь Савіцкі, Віктар Шніп і інш.

У рускай літаратуры працавалі (шмат хто з іх працягвае працаваць і зараз) пісьменнікі — ураджэнцы Беларусі: Алена Аксельрод, Генрых Баравік, Эма Выгодская, Леанід Пінскі, Пётр Кошаль, Якаў Кумок, Анатоль Левандоўскі, Анатоль Машкоўскі, Мікалай Чаркашын і інш.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# «Учалавечаны час»:

## развагі пра літаратуру ў нашыя дні

**Нялёгка ўбачыць і акрэсліць рэальныя абрысы сучаснасці, ацаніць мастацкія дасягненні, усвядоміць іх ролю і месца ў працэсе развіцця грамадства. Тым больш што многае змянілася, у тым ліку і становішча пісьменніка, умовы яго творчай дзейнасці, заангажаванасць дзяржавай.**

### НЕАД'ЕМНАЕ

Сёння часта чуюцца думкі накшталт «аўтар памёр», «літаратурны працэс абмялеў і знік», «літаратура скончылася». Ці так гэта? Вядома, усё цячэ, змяняецца, але патрэба ў літаратуры не адпала, яна не парвала з асноватворнымі традыцыямі. Беларуская літаратура ніколі не была іманентнай, г.зн. адасобленай ад рэчаіснасці: не было магчымасці гэта сабе дазволіць. Яна аб'ядноўвала народ на глебе духоўнай блізкасці, страсна сцвярджала гуманістычную ідэю каштоўнасці чалавека, адлюстроўвала нацыянальную ідэнтычнасць народа, матэрыяльны і духоўны ўклад жыцця, мову і традыцыі, характар і распаўсюджаныя тыпы асобы.

Літаратура — наша люстра і наша памяць. Яна стане яшчэ бліжэй і даражэй, калі пранікнем у яе сацыяльна-эстэтычную прыроду, зразумеем гістарычныя асаблівасці. Нягледзячы на тое, што «літаратурацэнтрызм» у многім стаў атрыбутам мінулага, літаратура была і застаецца летапісам жыцця і адначасова чалавеказнаўствам. А. Разанаў казаў: «Спадчына не ў мінулым, а з мінулага: яна — вектар, які паказвае дарогу, яна — аблічча ўчалавечанага часу».

### ПАСЛЯ ЭПОХІ

За савецкім часам у літаратурным ужытку існавалі так званыя «абоймы» — кароткі пералік найбольш вядомых пісьменнікаў, паэтаў, драматургаў, якія часцей за ўсё згадваліся ў выступленнях крытыкаў і ў калялітаратурных размовах. У 2014 годзе выйшла з друку заключная частка акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» — том 4, кніга 3. У ёй ідзе размова пра шэраг (некалькі дзясяткаў) пісьменнікаў, многія з якіх прадуктыўна працуюць і сёння, але, трэба сказаць, што такіх велічыняў, як М. Танк, І. Шамякін, В. Быкаў, сярод іх, на жаль, няма. Зменшыўся маштаб пісьменніцкай асобы і, адпаведна, маштаб творчасці, хаця літаратура і не звужае тэматыкі, па-ранейшаму імкнецца трымаць у полі зроку найважнейшыя праблемы, шукаць новыя падыходы да іх асэнсавання.

Што ёсць, тое ёсць. Творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, такіх як В. Зуёнак, В. Казько, А. Вярцінскі, А. Федарэнка, А. Разанаў, Л. Левановіч, Ю. Станкевіч, М. Мятліцкі, У. Саламаха, А. Бадак, Б. Пятровіч, В. Шніп, Т. Сівец, Н. Касцючэнка, М. Пазнякоў і многіх іншых, дапамагаюць у пошуках праўдзівага, адэкватнага слова, садзейнічаюць у выкараненні застарэлага граху сервільнасці. У лепшых творах абмяркоўваюцца пытанні прызначэння чалавека, яго ўзаемадачыненняў з прыродай, грамадствам, зямлёй, космасам. Літаратура імкнецца зразумець, што аб'ядноўвае ў адно цэлае, скажам, кветку пралескі, бляск зоркі і лёс чалавека.

Наш час прывучае чалавека да жыццёвай, дзелавой актыўнасці, намагаецца загартаваць яго ў пустыні індывідуальнай барацьбы за існаванне. У Беларусі марудна, але ідзе фарміраванне грамадзянскай супольнасці, пачала ўмацоўвацца вера людзей у самарух жыцця, у тое, што ўсё ўрэшце ідзе да лепшага, што людзі разумнеюць, набіраюцца досведу, што іх згуртоўваюць агульначалавечыя каштоўнасці.

Трэба мець на ўвазе таксама, што сёння размываюцца межы паміж сур'ёзнай літаратурай, вытрыманай у класічных традыцыях, і літаратурай масавай, разлічанай на не надта патрабавальнага чытача. Адна і другая карыстаюцца пэўным попытам.

### МАСТАЦКІ ДАКУМЕНТ

Пісьменнікі ўсімі даступнымі ім сродкамі, атрыманым творчым вынікам працягваюць уплываць на сучасніка, фарміраваць яго светапогляд, этычныя ўяўленні, нацыянальную свядомасць. Доўжыцца тэндэнцыя, звязаная з развіццём аўтарскага пачатку ў пісьменніцкай творчасці, што відаць, напрыклад, у такога дасведчанага мастака, як А. Савіцкі. Герой яго рамана «Пісьмо ў рай» (2003) — пісьменнік Алесь Смоліч. Ён ужо немалады, мае немалы жыццёвы досвед, на жаль, большай часткай трагічны. Прайшоў вайну, зведаў голад, бачыў смерць.



Прайшоў час, перабудова, «галоснасць» абвастрылі ў ім пачуццё справядлівасці, якое вяртае да не высветленага лёсу роднага бацькі, што трапіў пад рэпрэсіі і загінуў у Гулагу. Аўтар звяртаецца да фактаў уласнай біяграфіі, сямейнай памяці, да таго, пра што раней даводзілася маўчаць. У Смоліча выразна прасочваецца абуджэнне і развіццё пачуцця асобы. Ён, ужо на новым узроўні свядомасці, перажывае маральны ўздым, становіцца сапраўднай асобай, чалавекам-грамадзянінам, паслядоўным і настойлівым, актыўным у пошуках праўды і справядлівасці.

Нездарма літаратуру называюць чалавеказнаўствам. Яна ўважліва ўзіраецца ў сферу грамадскай свядомасці, індывідуальныя лёсы і характары. Назіраецца агульны нахіл да шчырасці, верагоднасці, праўдзівасці і дакументалізму. Дакументальны пачатак атрымаў вельмі выразнае гучанне ў мастацтве. Павялічылася ўдзельная вага факта ў сучаснай прозе, актывізуецца мемуарная плынь. Мастацкая форма даволі часта набліжаецца да публіцыстыкі, эсэ, рэпартажу, а часам нават да навуковага даследавання.

Дакументальныя жанры багатыя на разнастайныя адценні. Сюды ўваходзяць дзённікавыя, публіцыстычныя, нарысавыя кнігі, гісторыка-мемуарныя творы, навукова-даследчая літаратура.

Сёння літаратура намаганнямі многіх пакаленняў пісьменнікаў паглыбляе памяць і ўяўленне пра вайну, пазбягаючы іранічных інтанацый, фальшу.

### НЕСПАЗНАНЫ ЧАЛАВЕК

Важнае пытанне сучаснага літпрацэсу — прадмет і метады мастацкага пазнання і адлюстравання жыцця. І. Бродскі ў нобелеўскай лекцыі казаў пра «тры метады пазнання: аналітычны, інтуітыўны і метад, якім карысталіся біблейскія прарокі, — праз адкравенне. Адрозненне паэзіі ад іншых форм літаратуры ў тым, што яна карыстаецца адразу ўсімі трыма (схіляючыся пераважна да другога і трэцяга)...» Гэта сказана пра паэзію, аднак пералічаныя метады пазнання прыдатныя, думаецца, да ўсіх родаў мастацкай літаратуры.

Пазнанне чалавека было і застаецца галоўным яе прадметам. Больш за тое, яно выходзіць на першы план. Некаторыя сцвярджаюць, што літаратура «сказала пра чалавека ўсё, што яна магла пра чалавека сказаць. Літаратура незлічона абгаварыла яго цела і фізічныя патрэбы, яна наўсцяж абмеркавала ўсе трымценні душы і памкненні духа і нават вывернула вонкі вантробы чалавека, каб вынюхаць самы гнюсны смурод з яго фізіялагічных нетраў. Усё! Нідзе нічога нязведанага ад чалавека не засталося, каб можна было спадзявацца на эўрыстычны працяг. У гэтым сэнсе літаратура скончылася з той самай прычыны, што і эпоха геаграфічных адкрыццяў».

Насуперак падобным выказванням усё часцей гучыць думка пра тое, што эвалюцыя чалавека не спынілася і ён не выкарыстоўвае ўсе свае магчымасці. «Столькі праводзілася эксперыментаў, і, здаецца, чалавек столькі ведае не толькі пра свет прыроды, але і пра свет свайго цела. Аднак засталіся рэчы, якімі яшчэ можна здзівіць нават спакушанага знаўцу біялагічнай прыроды чалавека», — узрушана канстатуе журналістка С. Шыян.

Чалавек у большай ступені, чым раней, стаў цікавым для сябе, ён стаў заўважаць «другога», іншага, аказаўся здольным на ўчынак, асмельваецца думаць па-свойму — усё гэта ідэйныя вынікі XX стагоддзя. Літаратура назапасіла багаты мастацкі матэрыял, і чым болей здабыта крупінак мастацкіх адкрыццяў, тым настойлівейшая патрэба ў новым мастацкім сінтэзе, ва ўменні за сціплым фактам убачыць патаемныя, запаветныя глыбіні быцця.

### ПЕРШЫ ПАМАГАТЫ

Справе павінна дапамагчы крытыка, якая сёння таксама шмат шукае, эксперыментуе. Яна вучыцца бачыць у мастацкім тэксце, як таго некалі патрабаваў М. Бахцін, складаную сістэму сувязей, рухомае і зменлівае адзінства, якое можна раскладаць на састаўныя часткі, разнімаць і аналізаваць, тлумачыць, але да дна вычарпаць немагчыма, таму што яго сутнасць — шматзначнасць. Тэма твора ці аб'ект адлюстравання пачалі губляць каштоўнасную сілу. Увага крытыкі павярнулася да «краевугольных слоў», антыноміяў матываў, да паэтычнага сінтаксісу, постаці апавядальніка, індывідуальнасці інтанацыі, законаў рытму, узбагачэння жанравага канона. Крытыка перадусім імкнецца выявіць «код» твора як камунікатыўнага акта.

### МАЛАДАЯ НАЦЫЯ

XXI стагоддзе мала чым падобнае да XX. Змяніліся, сталі больш прагматычнымі адносіны паміж людзьмі, якія апынуліся ва ўмовах сацыяльнай адзіноты і вымушаны весці індывідуальнае змаганне за існаванне. Літаратура выступае як захавальніца духоўных каштоўнасцей, якія з'яўляюцца адначасова крыніцай чалавечых патрэб і нормай быцця. Не ўсё, на жаль, змянілася ў лепшы бок. У многім страцілі сілу рычагі маральнага рэгулявання. Філосафы і сацыёлагі гавораць пра «пераломную сітуацыю» ў маральнай сферы.

Савецкая ідэалогія арыентавала грамадства на выхаванне безнацыянальнага *homo sowetikus*, але пацярпела паразу. На гэтым выпрабаванні для нашай беларушчыны не спыніліся. Выразна акрэсліліся абрысы сусветнага глабалізму. На «мяжы» часоў востра паўстае пытанне аб захаванні і ўмацаванні духоўных каштоўнасцей чалавека — годнасці, дабраты, сумленнасці, павагі...

Гісторыя навучыла беларускі народ прыстасоўвацца да розных жыццёвых сітуацый. Жыццё паказала, што ён здольны адказаць на выклікі сучаснасці. «У нас, — лічыць, напрыклад, пісьменнік А. Шэін, — яшчэ захоўваецца ўнікальная гістарычная магчымасць закласці правільны нацыянальны фундамент. Мы — маладая, не да канца сфарміраваная нацыя, у якой да гэтага часу не аформлены нацыянальны тыпаж». Нацыянальная свядомасць, культура, нягледзячы на не заўсёды спрыяльныя ўмовы, застаюцца запатрабаванымі і развіваюцца. Беларусы заўсёды шмат бралі ў іншых народаў, запазычвалі дасягненні цывілізацыі. У сваю чаргу, здабыткам іншых народаў стала творчасць Сімяона Полацкага, Адама Міцкевіча, Элізы Ажэшкі, Станіслава Манюшкі...

Сёння беларусы ўсё больш разлічваюць на ўласныя, унутраныя сілы. Аднак нацыянальная свядомасць мае патрэбу ў абароне і дапамозе. Гэта, магчыма, перш за ўсё тычыць пытання мовы. Яна павінна ўзбагачаць сваю лексіку, і не толькі за кошт наватвораў і запазычанняў, але і за кошт абласных дыялектаў, а таксама ўзнаўляць забытыя словы і выразы. «У. Караткевіч, — згадвае прафесар І. Штэйнер, — са шкадаваннем адзначаў, што сучасная беларуская мова і сёння запінаецца на паняццях старадаўняй метафізікі і таго, што складала навуку магіі, астралогіі, дэманалогіі і інш. Ён лічыў, што прыйшла пара беларускай мове згадаць многія старыя юрыдычныя, філасофскія, наогул кніжныя словы, зрабіць усё магчымае і немагчымае для ўвасаблення глыбокіх думак і ідэй...».

* * *

Сучасная літаратура — у руху, у супрацоўніцтве пісьменнікаў і твораў. Без сістэмы каштоўнасцей, без ідэй, якія згуртоўваюць, інтэгруюць, грамадства існаваць не можа. Тут і павінна сказаць сваё слова літаратура. Даць канкрэтны прагноз яе стану на заўтра немагчыма, але ясна адно: развіццё літаратуры не спыніцца. Патрэба чалавека ў мастацка-эстэтычным пазнанні і творчасці такая ж неадольная, як самое жыццё.

Мы знаходзімся ў новых гістарычных умовах, і значэнне літаратуры павінна ўзрастаць. Яна — наш нацыянальны пашпарт, па якім нас пазнаюць у свеце. Практыка паказвае, што толькі тое застаецца ў гісторыі, у людской памяці, што атрымлівае пацвярджэнне ў літаратуры.

**Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ,**
**акадэмік НАН Беларусі,**
**Мікола МІКУЛІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Бойкі алавяны салдацік

**Этгар Керэт — аўтар шырока вядомы ў свеце, і для беларускай аўдыторыі голас не новы. Голас іранічны, але не з'едлівы. Добры, але не «мяккацелы». Вясёлы, але за смехам дасціпнага аўтара чутно горыч, трывогу за наступны дзень, боль, хоць і добра прыхаваны, за сваю краіну, чыёй пастаяннай музыкай сталі стрэлы й выбухі вайны. Сын Ізраіля, да якога прыслухоўваюцца чытачы ўсяго свету.**




У Беларусі Этгар Керэт мае сталую аўдыторыю, што было бачна па бітком набітай зале падчас сустрэчы з пісьменнікам. Чытачы розных узростаў ды прафесій, якіх лучыць любоў да доб-рай прозы і здаровага смеху... Нагодай для сустрэчы сталася прэзентацыя кнігі Этгара Керэта «Сем добрых гадоў», якая з'явілася на нашых кніжных паліцах дзякуючы перакладчыку Сяргею Шупу.

Папярэдняй і першай кнігай ізраільскага пісьменніка, перакладзенай на беларускую, быў зборнік прозы «Кіроўца, які хацеў стаць Богам» (перакладчык Павал Касцюкевіч).

Што так прыцягвае чытача да прозы Керэта? Адразу ж хочацца сказаць — гумар. Сапраўды, смех як забава і як найдзейснейшы лек заўжды быў пад рукой чалавека. Пісьменнікі-сатырыкі жывуць найдаўжэй у чалавечай памяці (Вальтэр, Свіфт, Рабле, бліжэй — Ільф і Пятроў, Мрый, Гашэк...). Але ў прозе Керэта смех не з'яўляецца самамэтай. Для яго іронія і самаіронія (другой, здаецца, нават больш) з'яўляюцца адначасова і падмуркам, і шчытом. Без іх дасціпная проза магла стацца непрагляднa-змрочнай: смерць бацькі, пастаянная вайна на тваім парозе, як вынік — трывога за будучыню маленькага сына, які аднойчы можа стацца салдатам, крытычны погляд на справу пісьменніка ў сучасным свеце, усведамленне ўласнае безабароннасці перад выбрыкамі лёсу і ўвогуле… Прамоў усё гэта без усмешкі, і скончыш слязьмі.

Відаць, сакрэт абаяльнасці аўтара (як апавядальніка і як асобы) у яго мужнасці, стойкасці алавянага салдаціка, які смяецца не з нагоды, але насуперак.

«Сем добрых гадоў» — кніга нон-фікшн, збор калонак, што друкаваліся цягам сямі гадоў у розных СМІ. Як для аўтара — вялікі час. І за меншыя тэрміны стыль можа змяніцца да непазнавальнасці. Але Этгар Керэт застаецца верны сабе. Не ведаючы акалічнасцяў стварэння гэтай кнігі, можна было б застацца ва ўпэўненасці, што напісаная яна адным духам. Цэласнасць «сямігадовай» кнігі можна ставіць у прыклад асобным нашым раманам, напісаным за два месяцы. Цэласнасць — але не аднастайнасць. Кожны з гэтых гадоў для Керэта нечым азначаны: адзін раздзел ставіць акцэнт на літаратурнай дзейнасці, іншы — на асабістым, трэці — на сяброўскіх стасунках. Але найбольш яўныя межы маюць першы і крайні год, гады нараджэння сына і смерці бацькі. Пра гэтыя вялікія падзеі, найрадаснейшую і найсмутную, аўтар гаворыць аднолькава спакойна. Этгар Керэт увогуле не спекулюе на пачуццях чытача. Кім-кім, а маніпулятарам яго не назавеш. Дэталі, такія кранальныя і незабыўныя, — вось што праймае. І пачуццё безабароннасці, усведамленне сябе дарослым дзіцём робяць аўтара і яго расповед, заўжды аўтабіяграфічны, надзвычай блізкім, так што па прачытанні «Сямі добрых гадоў» застаецца ўражанне асабістага знаёмства з абаяльным, але бязлітасным у праўдзе жыцця Керэтам.

Падобных кніг — падсумаванне калумністыкі, ці збор дзённікавых нататак, — у беларускай літаратуры хапае. Згадаем Віктара Шніпа з яго «Пугачоўскім цырульнікам» і «Заўтра была адліга». Згадаем Альгерда Бахарэвіча і яго «Гамбургскі рахунак». Вельмі розныя, яны ўсё ж аднакарэнныя па жанры. Але Віктар Шніп, калі параўноўваць яго з ізраільскім пісьменнікам, занадта сентыментальны, а ў іншым выпадкуператвараецца ў дакументаліста, прыводзячы краязнаўча-гістарычныя звесткі. Занатоўвае тое, што найперш важна для яго. Калі чытачу нецікава — прагартае. Альгерд Бахарэвіч дасціпны і цікавы, але «вузкаспецыяльны», залежны ад сваіх герояў. Словам, Этгара Керэта няма з кім параўнаць.

Раней згаданую дзіцячасць аўтара не варта разумець як інфантыльнасць. Так, Этгар Керэт не хавае сваіх сумненняў, страхаў, разгубленасці перад абставінамі, выстаўляе іх на пацеху чытачу, тым самым падбадзёрваючы яго і сябе. Такі сабе мудры блазан (да слова, заходнія крытыкі так яго і называюць: «белы клоўн сусветнай літаратуры»). І блазнерства гэтае не пазбаўляе яго ад адказнасці. Цікава назіраць за апавядальнікам, які сам жа з'яўляецца героем. Дык вось, герой гэты, пазбаўлены ўсякіх мужных прыўкрас а-ля непераможнасць, самаўпэўненасць, насамрэч зусім не слабы.

Лінія сын — айцец у «Сямі добрых гадах» адна з найгалоўнейшых, калі не самая. Яна мае падвойнае ўвасабленне: аўтар і яго сын; аўтар як сын — і яго бацька. У гэтых стасунках адлюстроўваюцца тыя самыя вечныя каштоўнасці, трываласць сям'і, на якой, урэшце, стаяць і краіна, і свет людзей. Тым вастрэй успрымаюцца аповеды пра сям'ю, што фонам ім выступае вайна. Вайна ў мінулым сям'і (айцец Этгара разам з бацькамі падчас Вялікай Айчыннай хаваўся ў зямлянцы пад Баранавічамі; маці Этгара жыла ў Варшаўскім гета). Вайна ў цяперашнім: Этгар спрачаецца з жонкай, ці пойдзе іх сын у далёкай будучыні ў войска. Маці катэгарычна супраць: яна не можа і не хоча бачыць у адзіным сыне гарматнае мяса. Этгар таксама гэтага не хоча; але хто стане абараняць краіну?.. Урэшце, істотна не адно прыватнае пытанне, але тое, што вайна сама па сабе — абсурдная, бессэнсоўная з'ява, якая змушае глядзець нават на немаўлят як на салдат. Этгар Керэт падае гэта ў пацешнай форме. Чытач смяецца. А потым — задумваецца.

Да слова, жаночых роляў у «Сямі добрых гадах» няшмат. Яны эпізадычныя. Але жанчыны вачыма Керэта — рацыянальныя, моцныя і небяспечныя (бо непрадказальныя).

Вайна не адзіная нагода для горкага смеху. З самаіроніяй Этгар Керэт разважае пра долю пісьменніка (яго аповеды пра літаратурныя фестывалі блізяцца да анекдотаў, як і гісторыя напісання першага апавядання). З той жа ўсмешкай — пра стаўленне свету да яўрэяў. Гуманізм і іншыя прыгожыя словы — гэта, вядома ж, добра, але Этгар Керэт, як чалавек разумны, у гэтым стаўленні адчувае і насцярожанасць. Разам з тым ён пасмейваецца з саміх яўрэяў, якія ўпарта бачаць наўкола праявы антысемітызму. Гэтак жа насцярожана і ў той жа час з усмешкай ён распавядае пра артадоксаў. Зрэшты, усмешка адрасуецца не ім, але крайнім поглядам людзей увогуле — не мае значэння, на што.

Гатоўнасць (аўта)героя Этгара Керэта сустрэць усякае выпрабаванне са смехам нагадвае нашага Несцерку. Справа ў варунках, у якіх выпадае жыць таму і другому. Беларусы, нацярпеўшыся ўсякага ліха, нарадзілі нязломнага персанажа, увасабленне саміх сябе такімі, якімі хацелася б быць. Нацярпеўся і народ Ізраіля. У выніку нарадзіўся пісьменнік Этгар Керэт. З «непарадным пад'ездам» чалавечага дома ён знаёмы з маленства: бацька замест казак на ноч распавядаў яму гісторыі сваёй маладосці — пра мафіёзі, прастытутак ды алкаголікаў.

Але сем гадоў, апісаныя ў кнізе, застаюцца добрымі.

**Наста ГРЫШЧУК**

*З пошты «ЛіМа»*

# Ля вытокаў запаветных крыніц

**Іван Юркін — сучасны беларускі аўтар, лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу ў рэчышчы песеннага жанру. 2016 год пазначаны для яго шчаслівай падзеяй — выхадам у свет зборніка вершаў і тэкстаў песень «Крыніцы».**

Для творчасці Івана Юркіна характэрныя лаканізм і элегічнасць, шчырасць пачуццяў, якой нязменна спадарожнічае душэўная раўнавага. Ён імкнецца асэнсаваць і шматгранна раскрыць грамадзянскі абавязак беларуса, што ўсведамляецца як духоўная неабходнасць берагчы і любіць Радзіму.

І нядзіўна, што крыніца натхнення для аўтара — родныя мясціны, асобныя іх вобразы-ўвасабленні: сцежка, якая вядзе ў васільковае поле («Васількі»), бэз як сімвал юнацтва («Пах бэзу»), добра пазнавальны вобраз — вярба каля ракі («Край родны»). Разам з тым, у творчасці І. Юркіна гучыць матыў звароту ў мінулае, трагічныя яго старонкі — у тыя часы, калі Беларусь пакутавала ад вайны, а пазней і чарнобыльскай катастрофы («Палюбіў назаўжды я прасторы Радзімы»).

Зборнік вершаў і тэкстаў песень «Крыніцы» змяшчае пад адной вокладкай адразу дзве кнігі — «Крыніца» і «Салаўіны гай», — што дае магчымасць параўнаць працу аўтара ў патрыятычнай, пейзажнай, інтымнай, філасофскай лірыцы. У кнізе «Крыніца», якая складаецца з красамоўных раздзелаў «Травы дзяцінства», «Цябе па-ранейшаму кахаю» і «Героі-салдаты», І. Юркін звяртаецца да ўспамінаў пра дом, пра бясконцую час дзяцінства і юнацтва і дзякуе продкам за тую неабсяжную каштоўную спадчыну, якую яны пакінулі.

Іван Юркін раскрывае тэму шчырага ўзаемнага кахання — без падману, сумненняў і крыўды («Ты прыснілася мне…», «Мы столькі гадоў крочылі разам»). Найчасцей ён звяртаецца да канкрэтнага апісання падзей і часу, у якім вялікае значэнне надаецца «споведзі душы». Зрэдку аўтар перадае пачуцці сваіх лірычных герояў праз зварот да алегарычнай формы ўспрымання рэчаіснасці *(«Если чем-то обидел тебя, / Растворюсь в предрассветном тумане»)*.




Творы І. Юркіна не толькі глыбока лірычныя, але і заўжды маюць на мэце патрыятычнае выхаванне. Праз кожны радок праходзіць лейтматыў захаплення чалавекам, яго памкненнямі. Лірычны герой аўтара — асоба мужная, дзейная, актыўная і валявая. Ён чуйна ўспрымае свет, здольны аб'ектыўна ацэньваць звычайныя і надзвычайныя падзеі. Найбольш ярка гэтая асаблівасць творчай манеры аўтара — у сукупнасці з прыкметамі рэалізму як мастацкай з'явы (гістарызм, тыповыя героі ў тыповых абставінах, канкрэтызацыя, дэталёвасць і інш.) — раскрылася ў кнізе «Салаўіны гай».

Тут у цэнтры ўвагі І. Юркіна аказваецца тэма «таямнічай сілы беларускай цудоўнай зямлі». У кожнай, здавалася б, драбніцы аўтар знаходзіць нешта незвычайнае, экстраардынарнае. Зноў звяртаецца да ўспамінаў пра юнацкае каханне, увасабляе вобраз любай жанчыны праз такі сімвал, як зорка, і ў пэўнай ступені рамантызуе каханне: *«Зорачка ясная, зорачка светлая, / Ў небе заўжды ты гарыш. / <…>. / Часта гляджу я ў высокае неба — / Колькі там зорак другіх. / Толькі адна маё сэрца чаруе / Мілай усмешкай вачэй дарагіх»*. Вобраз грацыёзнай, пяшчотнай, вернай свайму спадарожніку жыцця жанчыны аўтарам абагаўляецца.

Індывідуальнае і грамадскае цесна знітаваныя ў творчасці Івана Юркіна. Уласцівыя беларусам гасцінnасць, цярпімасць, дабрыня, вернасць традыцыям і павага да звычаяў, традыцый іншых народаў знайшлі ўвасабленне у тэксце песні «Прыязджайце да нас у Беларусь». Аўтар адухаўляе вобраз роднага краю, надае яму станоўчыя якасці, уласцівыя адначасова самаахвярнай маці і надзейнаму сябру: *«Цябе люблю, мой край цудоўны, / За хараство палёў і цеплыню зямлі. / Ты быў са мною верным сябрам, / Куды б мае жыццёвыя дарогі не вялі. / Мяне бярог, як маці, ты заўсёды, / Па вернай сцежцы вёў, дзе месяц зіхацеў»*.

Вершы Юркіна можна ахарактарызаваць найперш як рэалістычныя, дзе пачуцці перадаюцца літаральна (што абумоўлена ў пэўнай ступені песенным жанрам). Перажытае аўтар суадносіць з прынцыпамі гуманізму. Думкамі ён звяртаецца да свету, у якім інтэлект не адмаўляе пачуцці, а справядлівасць не адмаўляе дабрыню.

**Таццяна МАЦЮХІНА**

# «Акадэмкніга»:

## шануючы традыцыі

**На паліцах гэтай кнігарні прадстаўлена каля 40 тысяч найменняў кніг. Тут, працуючы наўпрост з крамай, рэалізоўваюць свае выданні каля 400 аўтараў. А яшчэ «Акадэмічная кніга», фактычна культавае месца для ўсіх кніжнікаў краіны, сёлета адзначае 40-годдзе. Як зрабіць кожнае асобна ўзятае выданне папулярным, а галіну кнігавыдання і гандлю ў цэлым — больш паспяховымі? На гэтыя ды іншыя пытанні ў гутарцы з нашым карэспандэнтам адказвае дырэктар «Акадэмкнігі» Вольга Глухоўская.**

**— Вольга Мікалаеўна, сучасныя кнігарні ўсё часцей адыходзяць ад класічнай практыкі і акрамя продажу кніг прапануюць наведвальнікам каву, ладзяць прэзентацыі і выстаўкі, ператвараюцца ў клубы. «Акадэмкніга» ж доўгі час застаецца той самай класічнай кнігарняй. Гэта асэнсаваны крок?**

— Так. У свой час наша кнігарня заняла пэўную пазіцыю і да сённяшняга дня яе прытрымліваецца. Адбываецца гэта таму, што фармат, у якім працуе магазін, задавальняе і саміх супрацоўнікаў, і пакупнікоў. Мы разумеем, што лепшае — вораг добрага, таму, кіруючыся і водгукамі пакупнікоў, працягваем працаваць у абраным кірунку. Таму ў найбліжэйшы час мы не плануем нейкіх глабальных змен у фармаце працы кнігарні, хоць пэўныя задумкі па мадэрнізацыі ў нас ёсць.

**— А чым адметная пазіцыя «Акадэмкнігі»? Чым яна адрозніваецца ад іншых кнігарняў сталіцы?**

— Мы традыцыйна засталіся на самай нізкай нацэнцы, што існуе ў рознічным гандлі кнігамі, гэта 30 працэнтаў. Самая нізкая нацэнка на кнігі па краіне ў нас ужо больш як год, павялічваць яе мы не плануем. Наша крама разам з Выдавецкім домам «Беларуская навука» заснаваная Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, таму, па двухбаковай дамоўленасці, выданні «Белнавукі» тут можна набыць амаль па аптовых коштах. А яшчэ нашу краму вылучае асартымент. «Акадэмніга» — вядомае месца для задавальнення попыту навукоўцаў, студэнтаў. Тут можна знайсці кнігі, якіх няма ў іншых кнігарнях, у тым ліку інтэрнэт-крамах. Нашы таваразнаўцы вельмі карпатліва працуюць, каб прадстаўляць вялікі асартымент навуковай літаратуры, кніг, якія дапамагаюць вучыцца і працаваць. Кнігарня таксама прадстаўляе шырокі выбар літаратуры, неабходнай у вытворчым працэсе розных прадпрыемстваў. Мы ажыццяўляем і дастаўку кніг поштай абсалютна ў любы рэгіён. Заказаць выданні можна праз наш сайт ці па тэлефоне.

**— Але ж вучэбная літаратура для школьнікаў таксама прадстаўленая ў кнігарні?**

— Сёння, з-за дэмаграфічнага становішча, у краіне назіраецца тэндэнцыя па зніжэнні колькасці студэнтаў і павелічэнні — школьнікаў. Нягледзячы на тое, што гандлёвая зала, дзе прадстаўлена літаратура для вучняў, намнога меншая, чым зала з навуковай літаратурай, рэалізацыя школьных дапаможнікаў роўная ці нават перавышае рэалізацыю літаратуры для вучоных і студэнтаў. Але ў цэлым у нас высокі ўзровень продажу прадукцыі беларускіх выдавецтваў: фактычна больш як 50 працэнтаў ад усіх рэалізаваных кніг. Справа ў тым, што мы наўпрост працуем з аўтарамі, якія выдаюць кнігі за свае грошы. Гэта вельмі складаная праца, але мы не адмаўляемся ад яе і ўдзяляем увагу абсалютна кожнаму выданню!

**— Цікава, якія ж кнігі прымаеце на рэалізацыю наўпрост ад аўтараў?**

— У нас будзе прынята для прадстаўлення ў гандлёвай зале амаль кожная арыгінальная кніга. За выключэннем, натуральна, забароненых заканадаўствам. З задавальненнем прымаем на рэалізацыю літаратуру на беларускай мове, а таксама прызначаную для студэнтаў, вучоных. Часам яна карыстаецца попытам, а часам разыходзіцца не вельмі хутка, але такое здараецца і ў буйных выдаўцоў. Таму я параіла б аўтарам перад напісаннем кнігі ці рашэннем яе надрукаваць — а гэта зусім не танна — праводзіць хоць нейкія даследаванні пакупніцкага попыту. Бо калі кніга ўжо выдадзеная, ніхто не абавязаны аўтару дапамагаць яе рэалізоўваць, зарабляць грошы. Гэта, лічу, асабістая справа пісьменніка.

**— Якія яшчэ парады можаце даць аўтарам і выдаўцам?**

— Сёння кніжны гандаль адчувае патрэбу, у асноўным, у рэкламе. На жаль, выдаўцы часта не разумеюць, што рэнтабельнасць гандлю з такой нізкай нацэнкай складае менш як 1 працэнт. Фактычна крама працуе толькі для таго, каб кампенсаваць выдаткі і забяспечыць супрацоўнікаў заработнай платай. Лішніх грошай на рэкламу ў крам не застаецца. Ва ўсім свеце піярам кніг традыцыйна займаюцца выдаўцы. Пры планаванні тыражоў яны ўключаюць затраты на рэкламу кніг у кошт самога выдання. Нашы ж выдаўцы, на жаль, практычна не займаюцца рэкламай кніг. Таму і пакупнік своечасова не інфармаваны пра тое, якая літаратура выходзіць, якія кнігі з'яўляюцца ў магазінах.

**— Вы таксама робіце пэўныя крокі па рэкламе прадукцыі, прадстаўленай у кнігарні?**

— Тое, што кнігарня можа вырашыць сваімі сіламі, у тым ліку і выдаткоўваючы сродкі, мы робім. Займаемся рассылкай камерцыйных прапаноў, прайслістоў, таксама апошнім часам пачалі афармляць вітрыны, тут рэкламуем самыя, на наш погляд, удалыя, самыя каштоўныя выданні. Гэта рэклама вельмі добра працуе і ў разы павялічвае продажы. Вельмі добры ўплыў на інфармаванне пакупнікоў аказвае і рэклама ў СМІ, але сёння любая рэклама патрабуе вялікіх сродкаў, якія не кожны выдавец ці кнігарня наважыцца ўкладаць.



Фота Кастуся Дробава.

**— Атрымліваецца, што кожны аўтар, выдавец і гандляр, працуючы на адной ніве, фактычна жывуць амаль у розных вымярэннях?**

— Часткова так. Галіне кніжнікаў, куды ўваходзяць і выдаўцы, і пісьменнікі, і кнігагандляры, не хапае агульнага тандэма, што вызначыў бы пэўныя правілы, па якіх працавала б і развівалася ўся сістэма. Сёння мы вельмі раз'яднаныя ці нават працуем ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі. Няма агульных правілаў гульні, як, напрыклад, у Германіі і некаторых іншых краінах свету. Там цана на кнігі фіксаваная: адно і тое ж выданне не можа прадавацца па розных коштах у розных месцах. У нас жа адна і тая ж кніга ў розных кнігарнях можа каштаваць зусім па-рознаму, а электроннае выданне мажліва набыць літаральна за 2 долары ці ўвогуле атрымаць бясплатна. Я не супраць таго, каб літаратура была ў вольным доступе, калі гаворка ідзе пра класіку. Іншая справа, што ў Беларусі кожны выдавец, кнігагандляр працуе сам за сабе, і ад гэтага пакутуе ўся кніжная галіна.

**— Што трэба зрабіць выдаўцу, які хоча размясціць рэкламу сваіх кніг на вітрыне «Акадэмкнігі»?**

— Перадусім — звярнуцца да нас з прапановай, а мы падумаем, ці хацелася б нам, каб тая ці іншая кніга была тварам крамы. Напрыклад, сёння на вельмі добрым месцы — рэклама альбома Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча «Спадчына Беларусі». Як кажуць самі аўтары, гэтае выданне можна набыць толькі ў іх, аўтараў, і ў «Акадэмкнізе». Кніга выклікае вялікі інтарэс у пакупнікоў і карыстаецца попытам.

**— Прапаноўваць эксклюзіўны прадукт — таксама адзін з прынцыпаў працы кнігарні?**

— Мы не можам дыктаваць аўтарам ці выдаўцам, як рэалізоўваць іх прадукцыю. У дадзеным выпадку гэта не вельмі правільнае рашэнне. Але крок саміх аўтараў. Тыраж выдання не вельмі вялікі, таму яны не хацелі б, каб кніга недзе проста ляжала і не карысталася попытам.

**— Якія яшчэ выданні вы назвалі б у ліку самых запатрабаваных сёлета?**

— «Фінансавая дыета», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда» пад рэдакцыяй памочніка Прэзідэнта Беларусі Кірыла Рудага. Кніга зробленая па ўсіх правілах поспеху: недарагая і цікавая шырокаму колу чытачоў, бо прадстаўляе агляд актуальнага эканамічнага становішча Беларусі, прапанавана вядучым эканамістам краіны. Другі бестселер сезона — кніга Міхаіла Мясніковіча «Эвалюцыйныя трансфармацыі эканомікі Рэспублікі Беларусь». Выданне адлюстроўвае погляд аўтара на тэндэнцыі ў эканоміцы нашай краіны. Што тычыцца мастацкай літаратуры, нон-фікшн, то тут найбольш папулярныя кнігі нобелеўскага лаўрэата па літаратуры Святланы Алексіевіч. Адметна, што у нас ёсць кнігі Алексіевіч, выдадзеныя на рускай і беларускай мове, а таксама ў перакладзе на вялікую колькасць замежных моў. Ёсць кнігі на кітайскай, японскай, нарвежскай, нямецкай, іншых мовах. Гэтыя выданні актыўна набываюць бібліятэкі, прадстаўнікі пасольстваў краін, што працуюць у Беларусі.

**— Вы самі шмат чытаеце, сочыце за падзеямі ў кніжнай індустрыі?**

— Немагчыма працаваць у кнігарні і не займацца асартыментнай працай. Той дырэктар, які не можа адказаць на пытанні пра навінкі, самыя папулярныя кнігі, — не вельмі добры кіраўнік кнігарні. Кніжны гандаль — справа досыць спецыфічная. Усіх задавальняе, калі, напрыклад, гандляр каўбасой фізічна не можа пакаштаваць усе віды прадукцыі, прадстаўленыя ў яго аддзеле, але можа распавесці пакупніку пра склад, вытворцу, свежасць прадукту, яго кошт. Але часам пакупнік прыходзіць да нас з прэтэнзіяй і лічыць, што прадаўцы здольныя прачытаць усе 40 тысяч найменняў кніг, прадстаўленых на нашых паліцах. Гэта і немагчыма, і непатрэбна. Гандляр павінен пракансультаваць пакупніка па тэме выдання, яго жанры. Бо літаратура — справа вельмі суб'ектыўная, тут многае залежыць ад густу асобна ўзятага пакупніка.

**— Якіх кніг, на вашу думку, не хапае сёння беларускаму чытачу?**

— Наведваючы кнігарні Украіны, я заўважыла, што там вельмі складана не знайсці ў перакладзе на ўкраінскую мову самыя вядомыя творы сусветнай літаратуры. На жаль, вельмі вялікая колькасць замежнай класікі, у тым ліку дзіцячай, не перакладзена на беларускую мову. А калі такія пераклады і выходзілі, то вельмі даўно, і сёння гэтыя кнігі знайсці немагчыма. Да прыкладу, пераклад «Маленькага прынца» Антуана дэ Сент-Экзюперы на беларускую мову выдаваўся «Мастацкай літаратурай» яшчэ ў пачатку 2000-х, і сёння гэтае выданне ўжо немагчыма знайсці ў кнігарнях. Пэўна, гэтыя рэдкія пераклады можна адшукаць у бібліятэках, але мы адвыклі нешта шукаць. Вельмі хочацца, каб усё было пад рукой, каб была магчымасць пры патрэбе хутка знайсці і набыць кнігу.

**— Што ў планах кнігарні?**

— Летась у архівах мы знайшлі дакументы, якія пацвярджаюць, што магазін адкрыты пад патранатам Акадэміі навук СССР на месцы, дзе раней знаходзілася бібліятэка «Юнацтва». Дакладнай даты адкрыцця мы не ведаем, таму лічым юбілейным увесь год. Маем планы абнавіць вітрыны, а таксама крыху змяніць фармат працы — арганізаваць асобную пляцоўку для правядзення прэзентацый, сустрэч аўтараў з чытачамі. Фармат зменіцца, але гэта не значыць, што мы цалкам зробім акцэнт на шоу. Як і раней, будзем працаваць з аўтарамі і прапаноўваць пакупнікам шырокі выбар літаратуры для вучобы і адпачынку.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Змітрок МАРОЗАЎ



### Ружа

*Квітнее ружа пад акном,*
*Аблашчаная ветрам,*
*Нібы спавітая цяплом,*
*Душа істоты светлай.*

*Тут ладзяць пчолы карагод*
*У радасным натхненні,*
*Бы зберагаюць ад нягод*
*Чароўнае стварэнне.*

*Вясна ды росквіт, маладосць.*
*І цэлы век да сцюжы…*
*Але не кратай Прыгажосць, —*
*Калючкі ёсць у ружы!*

### Сон пастушка

*Не забуду ніколі*
*Луг у зорнай расе,*
*Хлапчука, што на волі*
*Гурт хмурынак пасе.*
*Плёскат рыбнае рэчкі*
*Закалыхвае сон…*
*Не пачуў, як авечкі*
*Забрылі ў чысты лён.*
*Змоўклі познія косы.*
*Крык бабулін здалёк…*
*Аблачынкі з нябёсаў*
*Уцяклі за барок.*

### Старая вярба

*Плач вярбіны пад акном,*
*Побач — постаць матчына.*
*Астывае бацькаў дом*
*Без цяпла дзіцячага.*
*І буркуюць ля вярбы*
*Без ранейшай радасці*
*Маладосці галубы*
*З галубамі старасці.*

### Успамін

*Белы конь у зялёнай траве.*
*Вечар барвай фарбуе нябёсы.*
*Спачываюць пад стрэшкаю косы,*
*На вячэру матуля заве…*
*Успамін грэе памяць маю*
*І ў дзяцінства, бы ў казку, вяртае…*
*На падворку, самотны, стаю*
*І кагосьці чакаю, чакаю…*

***

*Малінавая ноч. Малінаўка малюе*
*Пяшчотным галаскам забытае ў душы…*
*Здаецца, побач ты. І я цябе мілую.*
*Нам разам гэту ноч ніяк не перажыць.*
*Дашчэнту спапялім у полымі кахання*
*Пачуццяў і надзей вясновае лісцё.*
*«Даруй і не шукай!» — ты скажаш*
*на світанні…*
*Малінавая ноч сплывае ў небыццё.*

### Для цябе

*Я сабраў з прыдняпроўскіх лугоў*
*У нямыя радкі для цябе*
*Пазалочаны пыл дзьмухаўцоў*
*І рамонкаў цнатлівую бель.*
*Медунічныя спевы чмялёў,*
*Водар спелага сена ў стагах…*
*Адчуваеш Радзімы любоў*
*Да цябе ў маіх шчырых радках?*

***

*Бывайце, самотныя цені,*
*Я вас не забуду ніколі:*
*За светлага шчасця імгненні,*
*За слёзы пакутнага болю.*
*За ўзлёты душы і падзенні,*
*За волю маю і няволю…*
*Бывайце, самотныя цені,*
*Я вас не забуду ніколі.*

***

*Радзімкі зорка на шчацэ,*
*Спякотных вуснаў лёгкі подых…*
*Твая рука ў маёй руцэ —*
*Мы будзем разам. Назаўсёды!*

*На ўсё астатняе жыццё,*
*Аж да апошняга світання*
*Нас заручыла пачуццё*
*Чароўнай музыкай «Каханне».*

***

*Мы будзем жыць!*
*Мінуць нягоды.*
*У чулых сэрцах адбаліць*
*Боль і трагедыя народа…*
*Мы будзем жыць!*
*Мы будзем жыць!..*

*Мы будзем жыць!*
*Засеем гоні*
*Дабром, што будзе ўсім свяціць.*
*А злыдняў прэч з вачэй прагонім…*
*Мы будзем жыць!*
*Мы будзем жыць!*

*Мы будзем жыць!*
*Хрыстовы дзеці…*
*Нас не прадаць і не купіць.*
*Прызналі нас у белым свеце…*
*Мы будзем жыць!*
*Мы будзем жыць!*

*Мы будзем жыць!*
*Беларусіна*
*Ніхто не здолее скарыць!..*
*Што б ні было, табе, Айчына,*
*Даю зарок: «Мы будзем жыць!»*

### Гарэза

*Яшчэ нядаўна з цацкамі гуляла,*
*Вучыла ляльку плакаць і спяваць…*
*А сёння прыгажуняй гэткай стала —*
*Вачэй ад твару і не адарваць.*

*О колькі ў ім вясёлага імпэту,*
*Жадання зразумець, спазнаць, адкрыць…*
*Ды толькі ў юнай грацыі пры гэтым*
*Агонь таемны полымна гарыць.*

*Гарэзліва з сяброўкамі смяецца,*
*Пачуцці абуджаючы мае…*
*Напэўна, ёй падорыць нехта сэрца,*
*Яна ж яго, як цацку, разаб'е.*

---

## Анастасія СІЯНІНА



**Анастасія Сіяніна жыве ў г. Оршы Віцебскай вобласці. Кіраўнік узорнай Школы паэзіі «Лотас» Аршанскага раённага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. Дзяцінства паэтэсы прайшло ў Расіі, на Браншчыне, пасля Чарнобыльскай катастрофы сям'я вярнулася ў Беларусь. Сябар аршанскага літаратурнага аб'яднання «Дняпроўскія галасы». Вершы друкаваліся ў перыядычных выданнях, а таксама ў 24 калектыўных зборніках Школы і Клуба паэзіі «Лотас». Аўтар зборніка лірыкі «И да будет тебе Благо» (Мінск, 2003). Суаўтар калектыўных зборнікаў «“Дняпроўскія галасы” — 60: анталогія паэзіі і прозы Аршаншчыны» (Мінск, 2009) і «Анталогія паэзіі Оршы. Т. 2. Жыцця спасцігнуць таямніцы...» (Мінск, 2010). Лаўрэат рэспубліканскага фестывалю аўтарскай духоўнай песні «Крылатая душа» (2012), рэспубліканскага фестывалю аўтарскай песеннай творчасці і паэзіі (2014) ды інш.**

### Адзіная Зямля

*Ці руская, ці беларуская… —*
*Адзіная ў свеце Зямля.*
*Шырокая сцежка ці вузкая —*
*Усюды лясы ды ралля.*

*Рачулкі бруяцца аднолькава,*
*І кветенем сыплюць лугі…*
*Праменняў даверлівых колькі нам*
*Падорыць абшар дарагі.*

*Дзяржавы злучаюцца лёсамі,*
*А значыць, і межаў няма —*
*Зямелька ўсміхаецца плёсамі*
*І рада дзяцей падтрымаць.*

### Пабрацімства сэрцаў

*Свежасць пацалункаў нам падораць хвалі,*
*Многа раз абдыме сонца аксаміт,*
*Кветак разляцяцца буйныя каралі,*
*І пагляд прыцягне зорны краявід,*
*Неба загамоніць яркаю вясёлкай,*
*Спеў птушыны сэрца гукам закране,*
*Лес праводзіць госця з поўнаю кашолкай,*
*І бацькоў пяшчота дзетак прыгарне…*

*Усё ў Сусвеце помніць — праўда,*
*не да кроплі,*
*Пра стварэнне кожнай існасці ў ёй:*
*Ад сістэм планетных да зямной*
*картоплі,*
*Ад Вялікай Сілы да Душы сваёй.*
*Часта закрываем клопатам Адзінства:*
*І заняты працай, а марнуем час.*
*Захаваць бы толькі Сэрцаў*
*Пабрацімства,*
*Каб Гасподзь з падзякай пазіраў на нас.*

### Святыня Зямлі

Песня
Белавежскай пушчы

*Мілуюцца танклявыя рабіны,*
*Смяюцца сосны ў хвойных сарафанах,*
*Шумяць у небе елак верхавіны,*
*Стаяць бярозы ў світках саматканых,*
*Задумаліся моцныя дубровы,*
*Аб чымсьці тут гамоняць ліпы, клёны…*
*Расці, наш родны лес, і будзь здаровы,*
*Прымі ад сэрца ўдзячнага паклоны!*

***Прыпеў:***

*Жыві ж, наш лес, і будзь заўсёды пушчай,*
*Нястомна налівайся Сонца сокам,*
*Паветра насычай сваёю гушчай,*
*Вяршынямі кранайся зор высокіх!*
*Зубры хай па тваіх сцяжынах ходзяць*
*І лётаюць маланкава казулі!*
*Хай пра цябе спяваюць у народзе*
*І шчодрасць берагуць Зямлі-матулі!*

*Ў адной мы нарадзіліся прасторы*
*І разам п'ём крыштальную вадзіцу,*
*І разам адкрываем свае поры,*
*Каб зведаць водар мудрасці крыніцы...*
*Нам без цябе не хопіць кіслароду,*
*Птушыных спеваў, рэчак паўнаводных!*
*Ахвяра для цябе — здабытак роду,*
*Складаецца жыццё з істот свабодных!*

***Прыпеў.***

### Агонь Нябёсаў

Песня

*Продкаў срэбная ніць*
*Памагае нам жыць,*
*Промні Радасці мець,*
*Цэлы Свет разумець;*
*Памагае кахаць*
*І ў Стварэнні лятаць —*
*Пакараць Вышыню,*
*Дзе мясціна Агню.*

***Прыпеў:***

*Агонь у сэрцах нашых гарыць,*
*Агонь Нябёсаў.*
*Мы нарадзіліся, каб служыць*
*Шляхамі лёсаў.*
*Пульсуе кроў гарачая ў нас,*
*Любоўю грае:*
*Наш Павадыр Узнесены Спас,*
*Ён нас кахае.*

*У Зямлі сотні рук,*
*Чысты Сонечны гук,*
*І Царыца Вада,*
*І Вятроў чарада… —*

*Людзі ў краі Зямным*
*Разам з Родам сваім.*
*Не злічыць тых Радоў,*
*Дзе Матуля Любоў.*

***Прыпеў (2 разы).***

### За Брамай Мар

*Малахітавая мроя*
*Распраўляе плечы,*
*І маланкавая зброя*
*Грымне пры сустрэчы,*

*Але вецер прапацелы*
*Распужае хмары*
*І астатніх кропель цела*
*Размяце ў абшары —*
*І душою асвяціцца*
*Усё, што ёсць навокал!*
*Мары болей не спыніцца,*
*Йдзе імклівым крокам!*

### Другая маладосць

Маці

*Наўсцяж рамонкавыя хвалі —*
*Таленавітае жыццё…*
*З матуляй кожнае быццё —*
*Неверагодныя каралі.*

*Няспынна мужнымі шляхамі*
*Кіруючь пошукі сябе —*
*І забывае аб журбе*
*Душа над шчырасці мяхамі.*

*Скрозь радасць гонкая віруе,*
*Любоў праменіць далягляд —*
*І ў шэсцьдзясят такі ж пагляд,*
*Што й вінаватага цалуе!*

### Сумленне

*Ці кахаем Зямлю? Ці істоту ў ёй*
*кожную чуем?*
*Ці праводзім шчаслівай усмешкай*
*сыходзячы дзень?*
*Можа, сэрца чыёсьці ад моцнага*
*болю ратуем*
*Ці расчуленым позіркам-сонцам ляцім,*
*толькі стрэнь?*

*Мо гатовы ніколі гаючай душы*
*не пярэчыць*
*І не траціць сябе на драбноту*
*знявечаных слоў?*
*Усё ў разумных руках, бо магутны*
*Сусвет Чалавечы,*
*Пасталелы за жыццяў эпохі*
*на безліч дароў!*

*Дар святы, паэтычны, — таксама*
*яго асяродак:*
*Без яго ні трава, ні лясісты гушчар*
*не расце… —*
*І звіняць жаўрукамі сыны*
*Чалавечага Роду,*
*А дачкам прызначаецца зорнай*
*красой зіхацець.*

*І ўзыходзяць яны, і Зямлю дарагую*
*чаруюць,*
*Апяваюць суквецце прастораў,*
*душы харастуво,*
*А калі падымаюцца ў неба,*
*тады ахвяруюць*
*З непазбыўнай пяшчотай*
*багацце сумлення свайго.*

Генадзь АЎЛАСЕНКА



**Некалькі гадоў таму ў серыі «Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы» (выдавецтва «Харвест») выйшаў мой раман «Дзікія кошкі Барсума». Я нават не чакаў, што ён выклікае такую цікавасць у чытачоў… І таму напісаў раман-працяг пад назвай «Барсум атакуе», невялікі ўрывак з якога прапаную чытачам «ЛіМа».**

Аўтар

# Барсум атакуе

*Урывак з фантастычнага рамана*

— Гэта жорсткі від спорту, Лоран! — сказаў Свенсан. — Вельмі жорсткі! Ён не для дзяўчат!

— А «дзікія кошкі»?!

Цяпер ужо Свенсан нічога не адказаў. Дакладней, ён проста не ведаў, што адказаць. Міжволі ўспомніліся словы Ірумы, прынцэсы «дзікіх кошак», што менавіта сюды, на Медэю-2, трапляюць з Барсума хлопчыкі, калі не ўсе, дык пераважная іх большасць. Праўда, рэдка хто з гэтых хлопчыкаў даведваўся потым, што іх матулямі былі славутыя «дзікія кошкі».

А Лоран моўчкі глядзела на настаўніка і, здаецца, з нецярпеннем чакала адказу. Хоць якога, але адказу.

— Ты хочаш стаць «дзікай кошкай»? — раптам здагадаўся Свенсан. — Ты даўно марыш ёй стаць?

Замест адказу дзяўчына толькі апусціла галаву і нечакана пачырванела.

— Ты спазнілася, — сказаў Свенсан даволі рэзкім тонам. — Спазнілася на шаснаццаць гадоў! А магчыма, і на сямнаццаць, калі табе ўжо споўнілася сямнаццаць! На Барсуме дзяўчынкі пачынаюць авалодваць баявым майстэрствам адразу ж пасля нараджэння. І нават раней…

Плечы дзяўчыны раптам уздрыгнулі, нібыта ад нейкага ўнутранага болю. Свенсану нават здалося, што ў вачах Лоран бліснулі слёзы, хоць разглядзець гэта было не так проста: дзяўчына апусціла галаву яшчэ ніжэй. Свенсан нават стала крыху шкада яе, але трэба ж камусьці вярнуць небараку з нябёсаў, у якіх яна марна лунае, на грэшную зямлю. І чым раней, тым лепш. Для яе ж самой лепш…

— Лоран, каб стаць «дзікай кошкай», трэба нарадзіцца на Барсуме! — сказаў Свенсан ужо значна мякчэй. — А ты, як гэта ні прыкра, нарадзілася на Медэі. І маці твая не «дзікая кошка»!

— Я нарадзілася не на Медэі, — прашаптала Лоран, узняўшы нарэшце галаву. Свенсан не памыліўся: у вялікіх вачах дзяўчыны і сапраўды блішчэлі слёзы, якія яна адразу ж сярдзіта змахнула рукой. — І я ніколі не бачыла сваёй маці, я нават не ведаю, кім яна магла быць на самай справе…

— І ты вырашыла, што яна магла быць «дзікай кошкай»? — перабіў дзяўчыну Свенсан. — Не цеш сябе пустымі ілюзіямі, Лоран! «Дзікія кошкі» ніколі не пакідаюць на чужых планетах сваіх немаўлят жаночага полу!

— Але ж мая маці магла проста загінуць, — не зусім упэўнена прагаварыла Лоран. — Проста загінуць, і таму я засталася ў дзіцячым доме, а маміны сяброўкі… Яе баявыя сяброўкі, яны проста не ведалі пра гэта…

— Ты выхоўвалася ў дзіцячым доме? — спытаў Свенсан, хоць гэта і так было ўжо зразумела пасля апошніх слоў дзяўчыны. — А хіба твой бацька… Ці ты таксама не ведаеш, кім ён быў?

Дзяўчына нічога на гэта не адказала, але Свенсан усё зразумеў і без слоў.

— Лоран, калі б тваёй маці была «дзікая кошка», ты б ніколі не апынулася ў дзіцячым доме! — яшчэ больш мякка прамовіў ён. — «Кошкі» ніколі не пакідаюць у бядзе дзяцей сваіх баявых сябровак, можаш мне паверыць!

Лоран зноў нічога не адказала, але Свенсан адчуваў, што абсалютна яе не пераканаў.

— Трымай!

Амаль не размахнуўшыся, Свенсан шпурлянуў у бок дзяўчыны мініплазмер, які адабраў на папярэднім уроку ў аднаго з вучняў. Цацка была даволі важкай, а палёт яе — імклівым, амаль імгненным… Але Лоран перахапіла плазмер без усялякіх намаганняў. Адной рукой, дарэчы...

— У мяне добрая рэакцыя, — сказала яна, акуратна паклаўшы мініплазмер на настаўніцкі стол. — Хоць і сапраўды, нічога гэта не даказвае. Прабачце!

Павярнуўшыся, Лоран рушыла была да выхаду, але нечакана зноў спынілася, павярнулася ў бок настаўніка.

— Дык як наконт секцыі?

— Ніяк, — сказаў Свенсан і, убачыўшы адразу ж спахмурнелы твар дзяўчыны, таропка дадаў: — Проста прыходзь і ўсё. Заўтра ў пяць трыццаць. Што з сабой браць, ведаеш?

— Ведаю! Дзякуй вам вялікі!

І, нечакана апынуўшыся зусім побач з настаўнікам, дзяўчына моцна абхапіла абедзвюма рукамі ягоную шыю. Потым гарачыя яе вусны…

Добра яшчэ, што Свенсан у апошні момант паспеў крыху адхіліць галаву ўбок. Пацалунак, які прызначаўся, хутчэй за ўсё, для ягоных вуснаў, патрапіў на шчаку. Няголеную з учарашняга вечара, дарэчы…

— Што ты робіш?!

— Прабачце, містар Свенсан! — ледзь чутна прашаптала Лоран, адпусціўшы, нарэшце, настаўніка і нават зрабіўшы крок назад. — Я не павінна была… але ж я… мне… Не ведаю нават, што на мяне такое найшло! Яшчэ раз прашу прабачэння!

— Містар Свенсан!

І настаўнік, і вучаніца зірнулі ў бок выхаду амаль адначасова. Там, прыхінуўшыся плячом да дзвярнога вушака, стаяла дырэктар гімназіі, місіс Глорыя Мерыдзіт. Дакладней, міс Глорыя, як у размовах паміж сабой заўсёды называлі свайго непасрэднага начальніка настаўнікі гімназіі, бо замужам дырэктрыса ніколі не была…

А ўрэшце, для яе дваццаці дзевяці гадоў гэта яшчэ не трагедыя. Цікава толькі, як даўно яна знаходзіцца тут, у кабінеце?

— Прашу прабачэння!

Па сухасці, якая ледзь прыкметна, але ўсё ж прагучала ў дырэктарскім голасе, Свенсан зразумеў, што ў кабінеце тая ўжо даволі працяглы час. І, вядома ж, на свае вочы магла назіраць гэты недарэчны пацалунак… Ці ўсё ж не паспела?

— Я не вельмі перашкодзіла?

— Ды не, — сказаў Свенсан, пачуваючыся даволі няёмка. — Зусім нават не перашкодзілі. — Ён памаўчаў крыху, адначасова папраўляючы гальштук. — А ў вас да мяне штосьці, ёсць нейкая асабістая справа?

— Я проста хацела нагадаць, што чакаю вас праз паўгадзіны ў сваім кабінеце. Вы, спадзяюся, не забыліся пра сваё абяцанне зайсці да мяне сёння пасля заняткаў? Гэта наконт нашай нядаўняй размовы…

— Памятаю, — зманіў Свенсан, які і сапраўды паспеў забыцца пра гэта сваё абяцанне. — Зайду абавязкова!

— Вось і цудоўна!

Рэзка павярнуўшыся на высокіх абцасах, міс Мерыдзіт выйшла з кабінета, нават не зірнуўшы пры гэтым ні на Свенсана, ні на Лоран, якая, нізка апусціўшы галаву, стаяла на сваім ранейшым месцы. Потым Лоран узняла галаву і паглядзела на настаўніка.

— Прабачце, містар Свенсан! — прагаварыла яна дрыжачым ад хвалявання голасам. — З-за мяне вас зараз чакаюць буйныя непрыемнасці! А ў вас іх і так хапае…

— Буйныя непрыемнасці? — перапытаў Свенсан, адрываючы, нарэшце, погляд ад дзвярэй і пераводзячы яго на Лоран. — З чаго ты ўзяла, што мяне нагогул чакаюць нейкія непрыемнасці?

— Я лепш пайду, — замест адказу прагаварыла дзяўчына. — Яшчэ раз прабачце, містар Свенсан!

І Лоран выбегла за дзверы, перш чым Свенсан паспеў ёй адказаць. Калі ж ён праз некалькі хвілін сам выйшаў у калідор, дзяўчыны ўжо не было.

Затое ў самым канцы калідора, ля кабінета хімічнай касмалогіі, было даволі шматлюдна. Там стоўпілася не менш як дзясятак здаравенных бэйбусаў… І зараз яны з вясёлым гоманам і рогатам спрабавалі адчыніць дзверы, якія хтосьці трымаў знутры. Нават не трымаў… Калі Свенсан падышоў крыху бліжэй, то зразумеў, што гэтыя дзверы, наадварот, з рогатам прытрымлівалі вучні, а адчыніць іх, адчайна і, на жаль, беспаспяхова, спрабаваў хтосьці знутры…

У гэты час адзін з вучняў азірнуўся і ўбачыў Свенсана.

— Шухер! — спалохана крыкнуў ён, і ўся вясёлая кампанія дружна кінулася наўцёкі. А з дзвярэй хімкабінета, якія, нарэшце, шырока расчыніліся, на падлогу вываліўся чырвоны і надзвычай узбударажаны містар Уінсан, выкладчык хімічных спецтэхналогій.

— Хуліганы! — ускокваючы і ажно задыхаючыся ад крыўды і хвалявання, выкрыкнуў ён услед сваім крыўдзіцелям. — Усё містару Свенсану раскажу!

У гэты час ён раптам заўважыў зусім непадалёку ад сябе містара Свенсана і крыху сумеўся. І не проста сумеўся, а нават, што здзівіла Свенсана, пачырванеў яшчэ больш. Праўда, амаль адразу ж зноў узяў сябе ў рукі.

— Дзень добры, калега! — прагаварыў ён паважна і нават з нейкім апломбам. — Як вашыя справы?

— Добры дзень, містар Уінсан! — у тон яму адказаў Свенсан, зрабіўшы выгляд, што нічога з таго, што здарылася толькі што ў калідоры, проста не заўважыў. — Як ваша спіна?

— А што спіна? — падышоўшы бліжэй, містар Уінсан пацісную плячамі і ўздыхнуў, абдаўшы пры гэтым Свенсана характэрным пахам таннага кукурузнага віскі. — Прайшла спіна…

Тут ён нечакана ікнуў і дадаў таямнічым шэптам:

— Амаль.

Некалькі дзён таму на лесвічнай пляцоўцы хтосьці з вучняў падставіў містару Уінсану падножку, і небарака настаўнік, хутчэй за ўсё, паспеўшы прыняць перад гэтым чарговую дозу спіртнога, не ўтрымаўся на нагах і літаральна пералічыў уласнай спінай амаль усе прыступкі паміж другім і трэцім паверхамі. Пра гэта Свенсану па сакрэце паведамілі самі ж вучні — не тыя, зразумела, якія ўдзельнічалі ў гэтым, мякка кажучы, хуліганстве… Звычайныя сведкі. Праўда, прозвішчаў самых хуліганаў яны не назвалі… Ды Свенсан на гэтым асабліва і не настойваў, бо цярпець не мог ні даносаў, ні, яшчэ ў большай ступені, даносчыкаў.

Тым больш, што сам містар Уінсан потым тлумачыў калегам сваё перакошанае становішча толькі тым, што на лесвіцы яго раптам прыхапіў чарговы прыступ радыкуліту. І ўсе яму спачувалі, робячы выгляд, што вераць гэтаму тлумачэнню. І нават давалі тыя ці іншыя парады па лячэнні гэтага захворвання, хоць Свенсан быў цвёрда ўпэўнены, што ўсе ці амаль усе настаўнікі добра ведаюць, што ж на самай справе адбылося з іх няўдачлівым калегам.

Цікава толькі, ці ведае пра ўсё гэта міс Мерыдзіт? Хутчэй за ўсё — не, бо яна гэтага выпадку проста так не пакінула б…

— Слухай, Алаф, — нечакана перайшоў на «ты» містар Уінсан, — а можа, мы з табой… па капялютцы? У мяне ў кабінеце зусім выпадкова засталося яшчэ… — ён змоўк, не дагаварыўшы, і яшчэ раз ікнуў. — Прашу прабачэння!

— Гэта я прашу прабачэння, містар Уінсан, — падкрэслена ветліва прагаварыў Свенсан. — Вялікі дзякуй за прапанову, але… — ён паглядзеў на гадзіннік. — Не п'ю.

— Што, зусім? — недаверліва спытаўся містар Уінсан. — Зусім не ўжываеш?

— У працоўны час не ўжываю, — сказаў Свенсан. — І вам не раю. Каб зноўку радыкуліт на лесвіцы не прыхапіў, а то гэта такая штука непрыемная, ведаеце…

І ён рушыў далей, пакінуўшы ўсхваляванага містара Уінсана ў адзіноце. Нетаропка спусціўся на першы паверх і ўжо нават дайшоў да гардэроба, як раптам успомніў пра міс Мерыдзіт і сваё абяцанне зайсці да яе праз паўгадзіны.

Дарэчы, яны амаль прайшлі, гэтыя паўгадзіны…

І яму давялося зноў узнімацца на другі паверх.

# Летам з «Культ-пра-Светам»

**Ці прываблівае школьнікаў сучасная літаратура? Інтэрнэт-праект «Чытацкая культура і культура чытання», праведзены на нацыянальным адукацыйным партале (*www.adu.by*), дадаў аптымізму беларускім пісьменнікам. Удзельнікамі рэспубліканскага сеціўнага праекта стала больш за тры тысячы школьнікаў — прыкладна 3% ад агульнай колькасці навучэнцаў сярэдніх навучальных устаноў. І гэты выдатны вынік не першы на рахунку супрацоўнікаў Нацыянальнага інстытута адукацыі.**



Фота Сяргея Нікановіча.

*Дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі Сяргей Важнік і пісьменнік Алесь Бадак разам з удзельнікамі сеціўнага праекта «Чытацкая культура і культура чытання».*

### ТВОРАЎ ХОПІЦЬ НА ЎСІХ

Напрыканцы мая адбылося ўзнагароджанне пераможцаў адразу двух дыстанцыйных мерапрыемстваў, прадстаўленых на нацыянальным адукацыйным партале.

На падвядзенне вынікаў першага этапу культурна-інфармацыйнага марафону «Культ-пра-Свет» сабраліся аўтары лепшых праектаў у намінацыях «КультСлоў», «КультВобраз» з і «КультІмгненне». Падчас сустрэчы былі прадстаўлены работы пераможцаў (пазнаёміцца з імі могуць і ўсе ахвочыя наведвальнікі партала, каб, прыкладам, даведацца пра гісторыю Мазырскага замка ці архітэктурна-гістарычныя каштоўнасці горада Мсціслава, натхніцца на экскурсію ў вёску Гарадная — «ганчарную сталіцу Палесся»).

Адмысловым мерапрыемствам стаў інтэрнэт-праект «Чытацкая культура і культура чытання». Вучні чацвёртых — адзінаццатых класаў былі падзелены на чатыры ўзроставыя групы. Для кожнай прапаноўваліся на выбар два творы сучасных беларускіх аўтараў. Пасля знаёмства з тэкстам школьнікі адказвалі на пытанні літаратурнай інтэрнэт-віктарыны, складзеныя самімі пісьменнікамі, і чакалі радаснага паведамлення пра перамогу. Удзел у праекце быў карысным не толькі для вучняў, але і для творцаў. Адказы на пытанні, якія гарантавана трапіць у рукі аўтараў, па-першае, актывізуюць новыя ідэі, а па-другое, дазволяць лепш зразумець чытацкае ўспрыманне тэксту.

Супрацоўнікі Адукацыйнага цэнтра інстытута арганізавалі сустрэчу пісьменнікаў з самымі ўважлівымі і глыбакадумнымі чытачамі. Людміла Рублеўская, Яўгенія Пастарнак, Алесь Карлюкевіч і Алесь Бадак адказалі на пытанні, распавялі пра сябе і павіншавалі пераможцаў конкурсу. Як неаднойчы здараецца, некаторыя аўтары адзначылі, што першапачаткова адрасавалі свае творы дарослаframу чытачу, але несвядома трапілі ў катэгорыю «пісьменнікаў для падлеткаў». І, вядома, не засмуціліся з гэтай нагоды! Сапраўды, «пісьменнікі для падлеткаў» часцей, чым «пісьменнікі для дарослых», сустракаюцца з чытачамі, удзельнічаюць у непасрэдным дыялогу з імі.

### ХТО ЧЫТАЕ?

Цікавы матэрыял — канкрэтныя дадзеныя, атрыманыя падчас правядзення конкурсаў. Напрыклад, вучні чацвёртых — дзявятых класаў у межах літаратурнай інтэрнэт-віктарыны маглі працаваць з творами на беларускай ці рускай мове. Адказы па беларускамоўных творах далалі 1727 удзельнікаў (60%), па рускамоўных — 1165 (40%). Гэтыя лічбы, верагодна, узрадуюць тых, хто дбае пра лёс роднай мовы. Аднак варта ўлічваць, што ў дыстанцыйных праектах нацыянальнага адукацыйнага партала ўдзельнічаюць пераважна жыхары рэгіёнаў. Сталічныя дзеці выяўляюць сябе не вельмі актыўна. Так, у складзе пераможцаў літаратурнай віктарыны (24 чалавекі) апынуліся толькі 3 школьнікі з Мінска. Супрацоўнікі Адукацыйнага цэнтра тлумачаць гэту тэндэнцыю тым, што мінскія дзеці маюць больш магчымасцей для самавыяўлення — затое для навучэнцаў з іншых гарадоў і мястэчак першая сустрэча са сталіцай можа адбыцца дзякуючы ўдзелу ў цікавых культурных праектах!

Немагчыма абмінуць і гендарную статыстыку: між пераможцаў абодвух конкурсаў хлопчыкі склалі толькі 11% (4 удзельнікі). Такім чынам, дзяўчаты часцей звяртаюць увагу на конкурсы культурнай скіраванасці і, магчыма, больш часу праводзяць за кнігай.

Што тычыцца цікавасці да канкрэтных аўтараў, то самым чытаным творам стала аповесць Яўгенія Хвалея «Прынцэса тусоўкі» (853 адказы), на другім месцы апынулася «Незвычайнае падарожжа ў краіну ведзьмаў» Алеся Бадака (600 адказаў), на трэцім — «Раство у хроснай» Алены Масла (477 адказаў).

Як высветлілася, сустрэчы з «жывымі пісьменнікамі» надзвычай запатрабаваныя: многія ўдзельнікі віктарыны хацелі патрапіць на заключнае мерапрыемства. Сучасныя беларускія творцы нямала пішуць для школьнікаў. І паколькі добрай прозы хопіць яшчэ на пяць — сем віктарын, трэба думаць, што літаратурныя конкурсы будуць традыцыйным мерапрыемствам нацыянальнага адукацыйнага партала. Выдатнай узнагародай для пераможцаў розных праектаў сталі б семінары, экскурсіі і майстар-класы.



*Лялька-абярэг «Каляда» Кацярыны Лысчанка — пераможцы марафону «Культ-пра-Свет» у намінацыі «КультВобраз».*

### СТВАРАЕМ РАЗАМ

Школьныя гады — час, калі фарміруецца цікавасць да літаратуры, мастацтва, гісторыі сваёй краіны. Праекты-конкурсы культурнай скіраванасці заахвочваюць да творчых пошукаў і аздабляюць школьныя будні. Да таго ж дыстанцыйныя мерапрыемствы аб'ядноўваюць жыхароў розных рэгіёнаў і забяспечваюць узаемасувязь між усімі ўдзельнікамі адукацыйнага працэсу — вучнямі, бацькамі, педагогамі.

Праекты, прадстаўленыя на нацыянальным адукацыйным партале, знаходзяць шырокі водгук: штомесяц сюды зазірае каля трыццаці тысяч наведвальнікаў (абсалютны максімум — 118 тысяч праглядаў, у верасні 2015 года).

Нацыянальны адукацыйны партал пачаў функцыянаваць у жніўні 2014 года. Тут можна пазнаёміцца з адукацыйнымі навінамі, знайсці электронныя версіі падручнікаў, інтэрактыўныя модулі па розных прадметах, артыкулы, прысвечаныя асобным пытанням адукацыі і выхавання. З самага пачатку нацыянальны адукацыйны партал разглядаецца як пляцоўка актыўнага сеціўнага ўзаемадзеяння. Першымі дыстанцыйнымі мерапрыемствамі былі конкурсы па навучальных прадметах для вучняў 5 — 11 класаў. Сёлета адбыліся першыя рэспубліканскія інтэрнэт-алімпіяды па прадметах «Сусветная гісторыя», «Гісторыя Беларусі». Супрацоўнікі Адукацыйнага цэнтра Нацыянальнага інстытута адукацыі паступова пашыралі межы дзейнасці і прапаноўвалі як дыстанцыйныя мерапрыемствы па навучальных прадметах, так і мерапрыемствы культурна-інфармацыйнага плана.

«Дзеці зацікаўлены ў творчых праектах, дзе ёсць адкрытыя пытанні, якія прадугледжваюць абмеркаванне з розных пазіцый, — распавядае начальнік упраўлення дыстанцыйных адукацыйных паслуг Гульнара Юсцінская. — Адным з першых праектаў, разлічаных на творчых вучняў, быў конкурс віншавальнай паштоўкі да Дня настаўніка. Нягледзячы на тое, што конкурс быў дыстанцыйным, дзеці даслалі нямала рэальных паштовак, выкананых у сучасных тэхніках. Удзельнікамі конкурсу стала каля трох тысяч вучняў».



*Габелен «Свята-Міхайлаўскі сабор горада Мазыра» Дзіяны Салавей — пераможцы марафону «Культ-пра-Свет» у намінацыі «КультВобраз».*

Па словах начальніка Адукацыйнага цэнтра Нацыянальнага інстытута адукацыі Ірыны Шауляковай-Барзенка, кожны праект — цікавая прыгода для супрацоўнікаў інстытута. Цёплая атмасфера абедзвюх сустрэч сведчыла пра гэта не менш, чым прыемныя падарункі таленавітым школьнікам.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Марафон не спыняецца

Скончыўся навучальны год, знаёмства з гісторыяй і культурай Беларусі пераходзіць для школьнікаў у больш свабодны фармат. Але нават улетку Нацыянальны інстытут адукацыі прапануе далучыцца да дыстанцыйных мерапрыемстваў:

✓ «Стартап-фэст "Спадчына.tut"» — выдатная магчымасць прадставіць гісторыка-культурную спадчыну роднага кутка, мясцовасці, рэгіёна ў намінацыях «Спадчын(а)рт-тур», «Спадчын(а)рт-аб'ект», «Фальклор.net». Падрыхтаваны і намінацыі, разлічаныя на маладых мастакоў, дызайнераў, аматараў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Да ўдзелу прымаюцца віртуальныя альбомы і матэрыялы, створаныя сродкамі сучасных інфармацыйна-камунікацыйных (ці медыя-) тэхналогій. Удзельнікі праекта — вучні ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі. Тэрмін падачы работ — май — верасень 2016 года.

✓ Культурна-інфармацыйны марафон «Культ-пра-Свет» працягнецца па 31 кастрычніка. На лета прыпадае другі этап марафону (1 мая — 31 ліпеня) — «Хранограф», у межах якога прапануецца прадставіць культурныя падзеі, факты і даты, звязаныя з рэгіёнам. Трэці этап марафону распачнецца 1 жніўня і будзе прысвечаны «культурным гісторыям» — знаёмству з самабытнымі асобамі. Да ўдзелу ў марафоне запрашаюцца ўсе жадаючыя.

Праца над актуальнай тэмай, распрацоўка праекта, які знаёміць з «жывой гісторыяй» альбо з культурнай спадчынай пэўнай мясцовасці, будзе карысным творчым заданнем на лета. А новы навучальны год абяцае быць шчодрым на новыя цікавыя мерапрыемствы для беларускіх школьнікаў.

## Ірына БУТОРЫНА:

# «Дзецям ад прыроды ўласцівая цікаўнасць»

**Ірына БУТОРЫНА — дасведчаны ў галіне дзіцячай літаратуры спецыяліст. Працуе ў Нацыянальным інстытуце адукацыі. Аўтар манаграфій «Свой у краіне дзяцінства», «Сцяжынкамі радзімазнаўства», многіх артыкулаў, метадычных распрацовак. Сёння літаратуразнаўца і метадыст расказвае пра новую справу, развіццё якой павінна спрыяць пашырэнню прасторы цікавасці да беларускай дзіцячай літаратуры.**

**— Вы распачалі ў школах Мінска новы адукацыйны праект, звязаны з прапагандай беларускай дзіцячай літаратуры. Якая мэта гэтага творчага метадычнага пачынання?**

— Мэта нашага праекта, які распрацаваны і рэалізуецца сёлета на факультэце пачатковай адукацыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, гучыць ужо ў самой назве: «Ад культуры чытання — да культуры асобы». У гэтым праекце мы імкнёмся аб'яднаць намаганні ў фарміраванні лепшых якасцей асобы, што сталее (значная роля ў гэтым — праца з дзіцячай кнігай), зрабіць удзельнікамі цікавай і карыснай справы будучых настаўнікаў — студэнтаў факультэта пачатковай адукацыі, беларускіх пісьменнікаў — аўтараў мастацкіх твораў для дзяцей і вучняў.

На кожны ўрок, па магчымасці, мы запрашаем аўтара кнігі, якая разглядаецца, каб даведацца пра гісторыю стварэння твора, пазнаёміцца з іншымі мастацкімі творамі і зрабіць урок эмацыянальна насычаным. Каб знаёмства з творчасцю пісьменніка было больш эфектыўным, у класе рыхтуецца выстаўка кніг. Нас вельмі радуе, што ў кожнай школе, дзе праводзіліся ўрокі, кнігі з выстаўкі выклікалі жывы інтарэс вучняў: хацелася ўзяць кнігу ў рукі, разгледзець малюнкі, пазнаёміцца са зместам.

**— Наколькі ахвотна да рэалізацыі праекта падключыліся студэнты педагагічнага ўніверсітэта?**

— Усе ўдзельнікі нашага праекта з вялікай зацікаўленасцю ўключыліся ў працэс падрыхтоўкі ўрокаў: працавалі з кнігамі ў дзіцячых бібліятэках і дома, уважліва перачытвалі складзеныя раней канспекты лекцый, знаходзілі ў метадычнай літаратуры займальныя прыёмы працы, не ленаваліся па некалькі разоў дапрацоўваць сцэнарныя планы ўрокаў. Адзначылі, што творчы ўрок такога ўзроўню быў праведзены імі ўпершыню. Сапраўды, для студэнтаў гэта выдатная магчымасць у нестандартнай абстаноўцы замацаваць на практыцы веды па методыцы выкладання літаратурнага чытання, педагогіцы, псіхалогіі. Добрай загартоўкай настаўніцкага светаадчування для іх становіцца правядзенне ўрока ў незнаёмай школе, класе, калі патрэбна хутка стварыць сітуацыю поспеху, убачыць кожнага вучня, а затым на працягу ўрока прадэманстраваць валоданне метадычнымі прыёмамі, каб дасягнуць пастаўленых мэт.

Задачы кожнага ўрока, безумоўна, розныя, але ў абагуленым выглядзе іх можна сфармуляваць наступным чынам: паглыбіць веды вучняў пра тэматычную і жанравую разнастайнасць творчасці пэўнага пісьменніка, пашырыць чытацкі досвед навучэнцаў, праверыць ступень разумення зместу і галоўнай думкі самастойна прачытаных твораў; удасканальваць уменні самастойнай працы з кнігай (шляхам выказвання ўласных адносінаў да прачытанага і інш.); працягваць працу па фарміраванні станоўчай матывацыі да чытання, развіваць пазнавальны інтарэс, маўленне, увагу, памяць, мысленне, творчыя здольнасці; выхоўваць культуру чытача, павагу і любоў да роднай мовы, пашану да Радзімы, клапатлівыя адносіны да членаў сям'і і асяроддзя.

Безумоўна, будучыя настаўнікі вельмі хваляюцца перад сустрэчай з пісьменнікам, разумеючы важнасць гэтай падзеі як для сябе, так і для маленькіх чытачоў, каму яны адкрываюць новую старонку літаратурнай адукацыі.

**— Ці складана падабраць школы і класы, у якіх вы праводзіце такія вось метадычна вывераныя прэзентацыі кніг?**

— Напэўна, кожны настаўнік разумее важнасць далучэння вучняў да свету мастацкай літаратуры, да кнігі, чытання з малых гадоў і шукае для гэтага разнастайныя сродкі. Нам вельмі прыемна, што, калі мы звярталіся з прапановай аб супрацоўніцтве ў правядзенні ўрокаў і пазакласных мерапрыемстваў праекта «Ад культуры чытання — да культуры асобы», усе прадстаўнікі ўстаноў адукацыі выказвалі вялікую зацікаўленасць, многія прапаноўвалі дапамогу ў падрыхтоўцы ўрокаў.

**— Чым кіруецеся ў выбары той ці іншай кнігі для знаёмства школьнікаў?**

— Імкнёмся ўдасканальваць чытацкія ўменні вучняў на матэрыяле мастацкіх твораў розных жанраў: вершы, апавяданні, казкі, загадкі, скорагаворкі і інш. Кніга павінна адпавядаць узроставым асаблівасцям успрымання вучняў пачатковых класаў, быць зразумелай па змесце і, канечне, валодаць значным выхаваўчым патэнцыялам. Адказна ставімся да глыбокага, разнабаковага аналізу мастацкага твора. У кнігах, з якімі вучні працавалі на ўроках, можна прасачыць усе напрамкі выхавання, акрэсленыя ў «Канцэпцыі бесперапыннай адукацыі дзяцей і вучнёўскай моладзі ў Рэспубліцы Беларусь»: патрыятычнае, эстэтычнае, сямейнае, экалагічнае, працоўнае і інш.

**— Наколькі ваш праект супадае з парадамі, выкладзенымі ў пазакласным чытанні?**

— Важная задача ўрокаў пазакласнага чытання — пашырэнне чытацкага кругагляду вучняў, паглыбленне іх чытацкай самастойнасці. Тэматыка ўрокаў пазакласнага чытання павінна суадносіцца з тэматыкай мастацкіх твораў, з якімі вучні працуюць на ўроках класнага чытання, і можа пашырацца. Прапанаваныя намі кнігі і распрацаваныя ўрокі адпавядаюць патрабаванням, якія прад'яўляюцца да ўрокаў пазакласнага чытання. Структура ўрока пазакласнага чытання дазваляе выкарыстоўваць вялікую колькасць займальных прыёмаў працы з кнігай. Гэтую магчымасць мы стараемся скарыстаць, каб рэалізаваць глыбокія міжпрадметныя сувязі ўрока літаратурнага чытання з урокамі выяўленчага мастацтва, музыкі, працоўнага навучання, прадмета «Чалавек і свет».

**— Як рэагуюць самі вучні на прапанаваныя для вашых урокаў кнігі? Ці адчуваецца ў знаёмстве з новымі творамі, новымі аўтарамі іх зацікаўленасць?**

— Дзецям ад прыроды ўласціва цікаўнасць і актыўнасць да спасціжэння навакольнага свету. Настаўнік павінен ведаць гэта і кожны дзень стымуляваць



Фота Кастуся Дробава.

пазнавальны інтарэс, дапытлівасць вучняў, развіццё іх творчых здольнасцей. Загадзя, у час падрыхтоўкі да ўрока, разам са студэнтамі мы наведваем пэўную школу, дзе адбудзецца чарговы ўрок, знаёмімся з вучнямі класа, у якім будзе праводзіцца ўрок, і іх настаўнікам. Адбываецца не толькі першая сустрэчы з класам, але і «сустрэча» вучняў з новай кнігай. Мы абавязкова прыносім кнігу ў клас, разглядаем яе калектыўна, паведамляем, што аўтар кнігі прыняў запрашэнне прысутнічаць на ўроку, і будзе ўнікальная магчымасць даведацца пра гісторыю стварэння кнігі ад самога аўтара. Мы ўдзячны настаўнікам, якія працягваюць працу па чытанні, дапамагаюць вырашаць арганізацыйныя пытанні.

Памятаючы пра неабходнасць штодзённага ненавязлівага выхавання асобы (такіх якасцей, як удзячнасць, бескарыслівасць, чуласць і інш.), мы разам з дзецьмі сваімі рукамі ствараем падарунак для аўтара ад удзячных чытачоў. Напрыклад, партрэт галоўнага героя кнігі, зроблены з выразаных з каляровай паперы дзіцячых далонек, ці альбом творчых работ вучняў. Вялікі інтарэс у вучняў выклікае і знаёмства з пісьменнікам, магчымасць задаць яму пытанне, узяць аўтограф, зрабіць фотаздымак на памяць.

**— Якія складанасці ўзнікаюць пры падрыхтоўцы прыдуманых вамі ўрокаў па чытанні сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры?**

— На жаль, не заўсёды вучні могуць знайсці патрэбную колькасць кніг у бібліятэках. Часам даводзілася рабіць ксеракопіі некаторых старонак кніг, каб забяспечыць кнігамі ўсіх вучняў класа.

**— А чаго, на ваш погляд, увогуле не стае ў справе прапаганды беларускай дзіцячай кнігі ў нашай школе, у сістэме адукацыі?**

— Вучням малодшага школьнага ўзросту, якія яшчэ толькі вучацца чытаць, вельмі патрэбны змястоўныя (класічныя і сучасныя), добра ілюстраваныя кнігі, невялікія па аб'ёме, якія вучні змогуць самастойна прачытаць і зразумець галоўную думку. Хацелася б, каб новыя кнігі дзіцячай літаратуры ў дастатковай колькасці траплялі ў школьныя бібліятэкі і настаўнікі ведалі пра папаўненне фондаў бібліятэк беларускай дзіцячай літаратурай, адрасаванай вучням пачатковых класаў.

**Гутарыў Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**6 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі «Дзяцінства — гэта смех і радасць» з удзелам празаіка Тамары Бунта ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**6 чэрвеня** — *на Пушкінскае свята паэзіі каля помніка А. С. Пушкіну (паблізу набярэжнай Свіслачы і гасцініцы «Беларусь»). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам паэтэсы Ніны Галіноўскай у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на літаратурна-музычную імпрэзу ў Дом міласэрнасці (пр. Ф. Скарыны, 11) з удзелам паэтаў. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 14 імя Ф. Багушэвіча (вул. Прытыцкага, 42) з удзелам пісьменніка, старшыні секцыі дзіцячай літаратуры СПБ Уладзіміра Мазго. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**8 чэрвеня** — *на свята маладой паэзіі ў Цэнтральную бібліятэку Цэнтральнага дома афіцэраў з удзелам лаўрэатаў гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных прэмій. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**9 чэрвеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з дзіцячай паэтэсай і кампазітарам Аленай Прахінай у публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а). Пачатак у 11.30.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 чэрвеня** — *на паэтычную сустрэчу з навучэнцамі Міншчыны ў межах школы «Со-творчество» (г. Мінск, пл. Свабоды, 13, актавая зала). Пачатак у 11.00.*

**8 чэрвеня** — *на сустрэчу з паэтэсай Ірынай Карнаухавай у Мінскую цэнтральную раённую бібліятэку (пасёлак Міхановічы, вул. Школьная, 25). Пачатак у 11.00.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 чэрвеня** — *на літаратурна-музычную кампазіцыю «Пуцяводная зорка Еўфрасінні Полацкай», прымеркаваную да Дня памяці Еўфрасінні Полацкай, з удзелам старшыні аддзялення, паэтэсы Тамары Красновай-Гусачэнка ў Віцебскую гарадскую бібліятэку імя Еўфрасінні Полацкай (вул. Чкалава, д. 39 к. 3). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**9 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з аршанскімі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў бібліятэку-філіял № 11 (Аршанскі раён, г. Барань, вул. Аршанская, 3). Пачатак у 10.30.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**4 чэрвеня** — *на літаратурнае свята «У кожнай мовы — свае словы» з удзелам пісьменнікаў Гродзеншчыны ў парк Жылібера (ля помніка Невядомаму салдату) (у межах XI Фестывалю нацыянальных культур). Пачатак у 16.30.*

# Выбіцца з натоўпу

Незалежнасць ад модных, палітычных і рэлігійных плыняў, стандартаў і стэрэатыпаў, стварэнне сваёй рэчаіснасці, творчая смеласць і адкрытае ўяўленне... Гэта не сюжэт для фантастычнага фільма. «Ты можаш быць вольным...» — выстаўка з такой назвай праходзіць у мастацкай галерэі «Дом карцін». Дзесяць сучасных беларускіх мастакоў. Столькі ж меркаванняў, пазбаўленых догмаў і ўмоўнасцей. Новыя вобразы і асацыяцыі. Не ўсёдазволенасць, а вера ў тое, што абраны шлях — правільны для цябе.

Экспазіцыя — свайго роду зрэз культуры мадэрнізму і авангарда ў беларускім мастацтве. Аднак без прэтэнзій на ўсебаковасць. Філасофія адчуванняў і думак людзей нашага часу. Новыя парадыгмы ў сімбіёзе з традыцыямі. Нязвыклая трактоўка паўсядзённых вобразаў.

Мастакі адбіраліся на выстаўку невыпадкова, а з падачы найбуйнейшага ў Расіі музея сучаснага мастацтва «Эрарта» ў Санкт-Пецярбургу, часткі маштабнага праекта, цэлай сеткі галерэй у розных краінах свету. Адна з мэт — продаж і прасоўванне твораў мастацтва.

Усе мастакі, нягледзячы на тое, што родам з Беларусі, паспяхова рэалізоўваюцца ў розных краінах, але кожны з іх адчувае сваё дачыненне да радзімы, услаўляючы яе сваімі поспехамі. Гэта — Наталля Залозная і Ігар Цішын, Таццяна Радзівілка і Канстанцін Селіханаў, Жанна Капуснікава і Сяргей Грыневіч, Аляксандр Фалей і Уладзімір Канцадайлаў, Уладзімір Кандрусевіч і Іван Сяміletаў. Пра што яны расказваюць нам, улоўліваючы ўсё да дробязяў пад сваім незвычайным ракурсам, інтэрпрэтуючы звыклае, ператвараючы ў асаблівае? Творчасць — ідэальнае асяроддзе для свабоды.



*Сяргей Грыневіч «Раскрыжаванне 6», 2013 г.*

## НЕ БАЯЦЦА ПАМКНЕННЯЎ

Наталля Залозная можа распавесці гісторыю жыцця правага і левага чаравіка — акрылам, кітайскай тушшу і пяском. Альбо напісаць пра салодкія няб'ёсы з ваты, скрозь якія нясмела прабіваецца дырыжабль. Стварыць свой «Малы свет», падобны да касмічнай варонкі? Лёгка! Таксама, як і правесці праз разводы ці то снегу, ці то рассыпістай гліны ва ўласны «Дзэн ландшафт», што нагадвае руіны старажытнага горада. Высакародная охра і бежавы з шэрым — улюбёныя колеры. Такі жывапіс супакойвае, дазваляе дакрануцца да чагосьці спрадвечнага… У тонкіх маляўнічых арнаментах яе магія. Неасімвалізм, які немагчыма інтэрпрэтаваць адназначна. Ды і не трэба…

Цікава, што гадоў шэсць таму ў сталічным Музеі сучаснага мастацтва праходзіла яе выстаўка «Свабодны палёт». Ад мастачкі сапраўды вее духам новага, еўрапейскага, жывапісу, зачараванасцю Бруселем, дзе яна заўсёды запатрабаваная. Акрамя жывапісу, дарэчы, Наталля Залозная займаецца інсталяцыяй, лічыць, што ўзаемапранікненне і разнапланавасць — адны з галоўных рыс мастацтва.

## ДАЦЬ ВОЛЮ ФАНТАЗІІ

Работ Ігара Цішына ў Доме карцін няма, але ён пазней абавязкова далучыцца да кампаніі мастакоў. Таксама творыць у Бельгіі. Віртуоз сумяшчэння розных прыёмаў, кантрастаў (кшталту сумяшчэння на адным палатне жыццялюбства і трагізму), аматар спасылацца на розныя культурныя плыні, іранізаваць, адчуваць смела і ў адкрытую… Працуе таксама з фотаздымкамі, выкарыстоўваючы іх як аснову, у якую ўрываецца жывапіс. Нядаўна ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў сталіцы ён выступаў з праектам, прысвечаным састарэлым савецкім рэалізм у сённяшнім выглядзе, так званаму «крызісу ў раі». Дыялог розных узроўняў рэальнасці, містыка і пародыя — вось што яго адрознівае. Абстракцыя ўступае ў дыялог з сюррэалізмам і элементамі коміксаў. З акварэльных фарбаў, слоіка з вадой і пэндзляў Ігар Цішын можа ствараць сапраўдныя цуды.

## ВЫСКАЧЫЦЬ СА ЗВЫКЛАГА

Чалавек у мастачкі Таццяны Радзівілка — нібы тэатральная лялька ў прасторы, фігурка з настольнага футбола. Але на першы погляд. Насамрэч — людзі як быццам выскокваюць з карцін. Ім мала месца, хочацца волі, шырыні. Пры ўсёй сваёй мініяцюрнасці яны вольныя выбіраць шлях. Рухаюцца, размахваюць рукамі, пускаюцца наўцёкі. Яе карціны заўсёды напісаны на мове знакаў. Ніякай прамой трактоўкі, трэба падумаць. Некаторыя з прадстаўленых работ ужо выстаўляліся ў адным з яе праектаў — «Парк культуры». Сутнасць — цесная сувязь чалавека з месцам, дзе ён жыве, працуе, любіць і натхняецца. Пры гэтым у цэнтры ён сам, дэкарацыі не істотныя.

## АДЧУЦЬ СЯБЕ ЎНІКАЛЬНЫМ

Адзіны скульптар на выстаўцы — Канстанцін Селіханаў. Ён зацвердзіўся на пляцоўцы ўпэўнена, гарманічна, хоць і стаіць недзе ўбаку. Жыццё для яго — пастаянная крыніца пытанняў, прычына для здзіўлення і развагі. І гэта бачна ў творчасці. У яго на ўсё ёсць сваё, альтэрнатыўнае, бачанне. Для выстаўкі скульптар адабраў серыю пра Давіда і Галіяфа, а таксама неадназначную скульптуру «Хор». Тэма даследаванняў — узаемаадносіны чалавека і натоўпу. Лаканічныя, невялікія фігуркі са сталі і бронзы выглядаюць велічна. Але, з іншага боку, асобы, сабраныя разам, могуць ператварыцца ў масу. Дзе мяжа? А гэта ўжо пытанне да нас.



*Наталля Залозная «Дзэн ландшафт», 2012 г.*

## УМЕЦЬ ЗДЗІЎЛЯЦЦА

Пах зямлі і сырадою, узмах крылаў бусла над ранішнім лугам, храбусценне свежых агурочкаў з градкі... Жанну Капуснікаву ўжо немагчыма ўявіць без яе, мабыць, самага нашумелага праекта «Дажынкі» (разам з другой часткай). Хтосьці называе гэта арт-трэшам, поп-артам на сельскі манер, а хтосьці бачыць вострую і прывабную індывідуальнасць, надзённы сацыяльны падтэкст. Яна ніколі не жыла ў вёсцы, але на яе карцінах маладыя людзі рэалістычна патанаюць у марах на мяккай траве, збіраюць рассыпаную ў парыве запалу соль з падлогі драўлянай хаты, з дываном на сцяне, крадуць кукурузу з калгаснага поля, праразаюць камбайнам налітае жнівеньскай спёкай поле... Быццам бы сюжэты з гумарам, аднак смех далёка не заўсёды галоўны. Чаму Дажынкі? Гэта свята збору ўраджаю, у розных народаў і ў розны час — сімвал працы, вынік якой (ці ў полі, ці ў офісе) дае надзею, веру ў заўтрашні дзень, сілу ад самасцвярджэння і сэнс жыцця. Жанна Капуснікава — мастачка, зацікаўленая ў фальклор. Яркія, месцамі нават кіслотныя, фарбы на яе карцінах — выклік перакананню ў тым, што раз беларускае, то сціплае і шэрае. Нічога падобнага!

## НАБРАЦЦА СМЕЛАСЦІ

Самыя, відаць, манументальныя карціны ў экспазіцыі — ад Сяргея Грыневіча. Ён заўсёды ўздзейнічае наўпрост. Не дае права на адпачынак. Прымушае спыніцца і паглядзець углыб. Агаліць думкі і жаданні, зняць мішуру стэрэатыпаў. Мастак увесь час даследуе ўплыў масавай культуры. Карціны шматмерныя, паглынаюць і ціснуць, падпарадкоўваюць, але хаваюць адказы на актуальныя праблемы часу, грамадскіх працэсаў, ломкі маральных і духоўных арыенціраў. Яго ведаюць за межамі нашай краіны, але творчы шлях непарыўна звязаны з Гродзенскім краем, дзе ён нарадзіўся. Тут натхненне. Але мастак любіць сінтэзаваць на карцінах і еўрапейскія традыцыі жывапісу, прычым як усходнія, так і заходнія. У Доме карцін можна знайсці яго наймацнейшую серыю «Укрыжаванне», натхніцца масіўным танкам і паглядзець на свежы аўтапартрэт майстра.

## ВЫКЛІКАЦЬ ЭМОЦЫІ

Малако і кава, разлітыя на палатне, злучаныя ў вычварным танцы лініі і кроплі. Бег, выбух, палёт. Абсалютная экспрэсія ў форме лаканічнай абстракцыі. Здаецца, рука сама рухаецца па паперы, слухаючы дыктоўку ўнутраных галасоў. У рытм маляўнічых плям уплецены словы і лічбы. Адчайны тэмперамент. Усхваляваная апантанасць. Размова пра Аляксандра Фалея. Каліграфія ці графіці? Экспрэсіянізм. Непаўторны.

## ДАВЕРЫЦЦА ПАРЫВАМ

Уладзімір Канцадайлаў прадставіў серыю мінімалістычных ландшафтаў на палотнах трохкутнай формы, аб'яднаных у адну сістэму. Зіма і вясна, захад і світанак. Розныя станы аднаго месца, кардынальнае змяненне звыклага. Мастак то любіць халодныя фарбы, то аддае перавагу цёплым. Натхненне прыходзіць адкуль заўгодна і нечакана. Канкрэтыкі на палотнах мала, ёсць падстава для ўяўленняў. Часты матыў (аднак яго няма ў экспазіцыі) — вытанчаныя жаночыя профілі і фігуры ў мяккіх колерах Тургенеўскага каларыту.

## ПРАКТЫКАВАЦЬ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ

А вось Уладзімір Кандрусевіч — больш смелы аматар эксперыментаў. Маляваць алеем на пазалочаным метале не кожны бы наважыўся. А наогул ён спецыяліст па фрэскавым жывапісе. Шмат фігур, «знятых» зверху, якія ідуць, асветленыя сонцам, лётаюць ці падаюць. Мастак любіць укараняць людзей у матэрыю: ці гэта агонь, вада або зямля. Адна з самых моцных карцін — «Гравітацыя»: людзі загорнутыя ў клубок, які час ад часу распадаецца, калі хтосьці вырываецца з масы, натоўпу…

## ЗВЯРНУЦЦА ДА ПЕРШАРОДНАГА

У Івана Сяміletава таксама прысутнічаюць матывы палёту. Ён асцярожна даследуе свет, паказвае яго нібы скрозь празрыстую заслону. То вандруе ў міжчасавай прасторы, то чырвонымі лініямі праразае фігуры, аддаючы перавагу чамусьці несвядомаму. Сюррэалістычна стварае новую рэчаіснасць, абапіраецца на інтуіцыю. Некаторыя з карцін падаюцца крыху дзіцячымі — але так трэба, бо гэта сапраўднае, першароднае, са свабоднымі асацыяцыямі і адлюстраваннем уласнага «я». Акадэмічнай тэхнікай ён валодае дакладна, але на арэну выходзіць фантазія.

Ці не маніфест для ўсіх мастакоў?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Не цацкі

## Частка ІІ. Дэканструкцыя ці дэгуманізацыя?

Беларускі тэатр лялек сёння — цікавая з'ява. Не толькі з пункту гледжання тэатральнага жыцця — ідэй, сюжэтаў, тэм і форм, калі традыцыйнае ўяўленне пра гэты від тэатра ўдакладняецца канцэптуальным і эксперыментальным складнікам. Падчас Мінскага фестывалю лялечных тэатраў нам імкнуліся прадэманстраваць панараму свежых работ айчынных рэжысёраў і ўсіх абласных тэатраў плюс Маладзечна. Акрамя таго, далі падставы разважаць: што і чаму хвалюе ў наш час рэжысёраў, якія тэатральнымі сродкамі заклікаюць да дыскусій, спрэчак і нават філасофскіх разваг.

Разважаць ёсць пра што, таму што некаторыя пастаноўкі тэатральнага сезона, які канчаецца гэтым летам, сталі калі не адкрыццём, дык шокам. А можа, і сучасным Адкрыццём, якое даносяць да людзей самымі рознымі шляхамі і сродкамі думкі пра тое, як заставацца людзьмі ў свеце, дзе шмат розных спакус. І калі гэта так, а галоўная мэта спектакляў — чалавек і яго стан, — чаму тады наогул узнікаюць падставы для спрэчак: чаму сыходзіць гуманізм з сучаснай тэатральнай прасторы (гэта тычыцца ў першую чаргу работ маладых, але ўжо вядомых беларускіх рэжысёраў-лялечнікаў)?

Але калі ў нас нараджаюцца падобныя дыскусіі, то, можа быць, з-за таго, што любіць людзей можна па-рознаму. Часам гэта значыць рабіць так, каб ім было прыемна. Часам — прымушаць думаць, каб яны развіваліся. Часам іх трэба лекаваць: ніхто не назаве антыгуманнай працу хірурга, які робіць балюча, дзеля таго, каб чалавек працягваў жыць. Можа быць, калі гаворка заходзіць пра лялечны тэатр, мы знаходзімся ў палоне стэрэатыпаў: тут будуць забаўляць. Але ў руках сучасных рэжысёраў лялькі — не цацкі. Нават калі яны дзейнічаюць у дзіцячых спектаклях.

## 1. НЕ БАЙКІ

Напрыклад, у пастаноўцы Алега Жугжды ў Гродзенскім абласным тэатры лялек «Вялікі змей» дзейнічаюць і людзі, і лялькі, якія сапраўды выглядаюць як дзіцячыя цацкі. Але ў гэтай казцы цацкі ажываюць і ўзаемадзейнічаюць з акцёрамі. Дзеці могуць сачыць за тым, што адбываецца з удавам, які шукае сабе рукі і ногі (у гэтым яму дапамагаюць сябры), а дарослыя — слухаць павучальныя спевы ад актрыс, апранутых у стылі вар'етэ. Жанр вызначаны як казка-вар'етэ, можа, якраз для дарослых, каб парадаваць іх. Дзяцей — хіба што пярэстасцю і яркасцю антуражу. Але ўсё, здаецца, зроблена на радасць людзям. Іншае пытанне: ці кладзецца вар'етэ на павучальнасць, закладзеную ў казцы? Пытанне, якое варта разглядаць у кантэксце тэатральнага гуманізму.

З гуманізмам як жаданнем парадаваць і ўсцешыць у нас у тэатрах усё ў парадку. Калі ласка: вясёлая камедыя італьянскага Адраджэння «Мандрагора». Гумар пачатку XVI стагоддзя ад Нікола Макіявелі і інтрыга вакол кахання, якога прагнуць галоўныя героі і імкнуцца дасягнуць любымі сродкамі. Спектакль Мінскага абласнога тэатра «Батлейка» з Маладзечна толькі створаны і быў паказаны на фестывалі як прэм'ерны. Пастаноўка для дарослых. Вядома, дзе каханне, там і спакусы.

У тым ліку і для тэатра: што выбраць для пастаноўкі, каб уразіць сучаснага гледача? У тэатры «Лялька» з Віцебска прадставілі свой варыянт: спектакль «Спакуса» — пастаноўка Віктара Клімчука паводле «Чорнага манаха» Чэхава. Пра тое, якія спакусы чакаюць чалавека на шляху сталення, як яны могуць мяняць лёс, прычым не толькі таго, хто спакушаецца, але і тых, хто побач з ім. Містычны сюжэт, але ўся містыка — унутры чалавека, свядомасць і душу якога грызуць пытанні. Чалавек і спакусы — тэма вечная, таму актуальная. І гэта важна паказаць — яшчэ і формай, абранай для пастаноўкі.



Сцэна са спектакля «На дне» Магілёўскага абласнога тэатра лялек.

Відаць, форма вельмі займала Юрыя Дзівакова, калі ён задумаў увасобіць на сцэне Гомельскага дзяржаўнага тэатра лялек байкі Жана дэ Лафантэна. Ён добра падумаў, перш чым ствараць пастаноўку з французскай назвай «*Fable*». Глядач зразумее гэта адразу, як толькі пачне пазнаваць герояў баек... Івана Крылова, вядомых з дзяцінства. Але Крылоў быў перакладчыкам. І цяпер ёсць магчымасць нават пачуць байкі на мове арыгінала. Французская — гэта як асобны (нябачны) удзельнік пастаноўкі, што дапамагае ствараць кантэкст пэўнай культуры. Яна надае водар той дзеі, што суправаджаецца бязліччу абстракцый і ўмоўнасцей. Але ўсе героі пры гэтым пазнавальныя: Воран і Ліс, Цыкада і Мураш, Воўк, Каза, Казляня і іншыя. Таму тэкст — не галоўнае ў сцэнічнай прасторы. Ён дадаецца сам сабой: гучыць у галаве, калі артысты прадстаўляюць чарговую байку, улазячы ў «скуру» героя. Некаторыя байкі абгрываюцца ў сучасным кантэксце. Але ўсе разам — разбураюць стэрэатыпы, замацаваныя ў нашай свядомасці, наконт самабытнасці некаторых культур і ўнікальнасці культурных з'яў. Жаданне разбураць стэрэатыпы адбілася і на форме спектакля: у агульнай шырокай прасторы існуюць усе (і толькі час ад часу прарываюцца гукі мелодыі Бетховена, з якой атаясамліваецца Еўропа). Асобныя тэмы (ці кавалкі) пазначаюцца святлом, музычнымі нумарамі. І людзьмі. Жывёльныя маскі (даволі ўмоўныя) адразу даюць магчымасць зразумець: гэта свет людзей, у ім магчыма ўсё. Нават метамарфозы, пасля якіх мяняецца ўспрыманне той жа байкі на сцэне: яна можа быць прадстаўлена ў любой форме, што залежыць ад аўтара. Разбураецца стэрэатыпнае ўяўленне пра існаванне культур і людзей. Таму што ўсё роўна ў цэнтры ўвагі — яны, іх свядомасць і тое, як з ёю можна гуляць.

## 2. НЕ «ГОРДА»

Людзі — не заўсёды героі. Максім Горкі адпачывае — з яго гуманізмам. Тады яшчэ магчыма было верыць у чалавека.

Цяпер, у XXI стагоддзі, штосьці змянілася. Прынамсі, для рэжысёра Ігара Казакова, які паставіў «На дне» ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры. У наш час ён прачытаў Горкага інакш і прапанаваў гуманізм іншага кшталту: праз антыгуманнасць. Свайго роду ўвасабленне закону адмаўлення праз адмаўленне. Толькі гэтая філасофія ўвасоблена ў тэатральнай форме.

Людзі-пачвары жывуць у сваіх клетках. Вялізныя маскі-лялькі ў спалучэнні з чалавечым тулавам адразу скіроўваюць да думак пра істот-мутантаў, у якіх чалавечага засталося няшмат: рухі цяжкія, скаваныя, рукі свабодна звісаюць, але падаюцца чужымі і непатрэбнымі гаспадарам. Яны нешта гавораць, валтузяцца, робяць бязліч непатрэбных спраў, увесь час нечым заклапочаныя, так што нават ніхто не можа падысці да Ганны, якая памірае. Лялька на авансцэне — нібыта Мерка гуманізму сярод гэтых істот. Мерка вялікая. Ім да яе справы няма.

Начлежка... Гэта ў Горкага. У Казакова — чалавечы мікрасвет, дзе сабраны істоты рознага паходжання, узросту, прафесій, статусаў. Ёсць сярод іх гаспадары, ад якіх нібыта ўсё залежыць. Але яны, калі разабрацца, нічым не лепшыя за тых, хто жыве ў іх «начлежцы». Ніхто не хоча напружвацца. Усе хочуць проста пражыць дзень, як-небудзь. Ніхто не збіраецца выбірацца з начлежкі, дзе не існуе падзелу на «дзень — ноч» (ідэю рэжысёра дапамагла ўвасобіць мастачка Таццяна Нерсісян). Праўда, сярод цемры здараюцца промні святла.

У адным з такіх промняў, які ліецца праз трубу-шлюз, у гэты свет трапляе дзядок Лука. З іншымі размовамі. З іншымі думкамі, каб разварушыць, прымусіць рухацца, выбрацца. Здаецца: вось-вось у яго атрымаецца, і артыст, які так рашуча скінуў сваю маску-вопратку, сапраўды вернецца на сцэну, закаханыя пабяруцца шлюбам і будуць будаваць сваё жыццё. Але кожны раз чагосьці не хапае. У апошні момант нешта не спрацоўвае. Лука... Невыпадкова ж ён выглядае маленькім анёлам, які час ад часу лунае над героямі — як пасланец, дзейнічае мякка, з любоўю. Любіць усіх, усіх шкадуе. І калі разумее, што ўсё роўна жорсткасць бярэ верх у свеце гэтых людзей, знікае. Таму што бессэнсоўна. Далей — толькі апакаліпсіс сёння.

Дэзінфекцыя. Татальная. Нехта дае каманду — і праз шлюз (адкуль з'яўляўся Лука) ліюцца патокі вады, якая змывае ўсіх насельнікаў гэтага свету. Чалавек не «гучыць горда». Разбураецца стэрэатыпнае ўяўленне і пра тэкст у тэатры (інтэрпрэтацыя першакрыніцы можа праяўляцца нават у выкарыстанні яе часткі).

Рэжысёр гэта робіць не таму, што не любіць людзей. Ён стварыў свой спектакль вельмі рацыянальна, улічыўшы ўсе негатыўныя эмоцыі гледача: вось тут ён яшчэ спадзяецца, тут расчароўваецца, тут пачынае абурацца. Нават ненавідзець. Гэта значыць — перастае быць абыякавым. Такім, як героі начлежкі, кожнаму з якіх дадзены шанец. Гэта тэатр, які апелюе да людзей, імкнецца іх любымі спосабамі вывесці са стану здранцвеласці і абудзіць жывыя думкі. У наш цынічны час, магчыма, усе шляхі вычарпаны, акрамя самых радыкальных. І добра (нават вельмі гуманістычна), калі радыкалізм праяўляецца праз тэатр.

## 3. НЕ ЖАНОЧАЕ

Такое абыходжанне з Горкім — не адзіны прыклад, як разбураецца стэрэатыпнае ўяўленне пра тэкст у тэатры. Таму што паняцце тэксту ў спектаклі Яўгена Карняга «Інтэрв'ю з вядзьмаркамі» Дзяржаўнага тэатра лялек даволі шырокае. Тут тэкст — не толькі словы, якія прамаўляюць тры актрысы (амаль абыходзяцца пры гэтым без лялек), часткай тэксту становіцца форма спектакля. Гэта варыянт, пры якім радыкалізм перамог і аказалася магчыма размаўляць пра пачварнае і жахлівае, называючы рэчы сваімі імёнамі. Магчыма, таму, што зло цяпер не хаваецца? І сярод нас сапраўды ёсць ведзьмы, якія атручваюць усё навокал (адпаведны дух і прастору абазначыла ўсё тая ж Таццяна Нерсісян).



Сцэна са спектакля «Інтэрв'ю з вядзьмаркамі» Дзяржаўнага тэатра лялек.

Тры вядзьмаркі (актрысы Ганна Гаспадарык, Наталля Кот-Кузьма, Святлана Цімохіна) распавядаюць свае гісторыі. Жорсткія, антычалавечыя. Але чаго ж ад іх яшчэ чакаць? Ледзь не ўсю чалавечую гісторыю мы бачым і адчуваем праз адмоўных персанажаў, але ж такія яны спакуслівыя, што хочацца з імі напачатку жартаваць, а потым па-чалавечы шкадаваць.

Форма інтэрв'ю дазваляе персанажам раскрыцца ва ўсёй іх шматаблічнасці. Інтэрв'юер кожны, хто прысутнічае на спектаклі. Ведзьмы шчырыя і адкрытыя — нічога не хаваюць. Яны забівалі. Яны згубілі. Яны катавалі. Яны ганарацца, што маюць уладу над чалавекам. Непрыхаванае зло паступова напаўняе залу.

Так, можна было б кідаць папрокі ў бок Карняга з нагоды гэтага тэксту, калі б асновай для сваёй пастаноўкі ён не ўзяў казкі братоў Грым. Гісторый гучыць шмат, у кожнай з трох актрыс нібыта жыве некалькі персанажаў адначасова, хоць усё ж пазначаны архетыпы: жанчына-маці, гламурная дзяўчына і моцная жанчына. У кожнай ёсць нейкі боль, траўма, што вызначае паводзіны, і мы назіраем, як яны правакуюць на эмоцыі залу. Кульмінацыяй становіцца сцэна, калі адна з жанчын усё сваё зло выплёсквае на маці-нябожчыцу: з яе яна пачалася як вядзьмарка (ці, іншымі словамі, пачала несці зло іншым).

Гераіні спектакля даюць падставы казаць пра гендарную тэму: маўляў, жанчыны, пра жаночае, праз жаночае. Але гэта той самы выпадак, калі за відавочна гендарным бачыцца глыбока і агульначалавечае. Паколькі няма ў чалавека (пакуль) іншых шляхоў, каб прыйсці ў свет, чым праз жанчыну. А траўмы, атрыманыя ад маці (ці ў дзяцінстве), могуць прыводзіць да глабальнага і вялікага зла, якое потым ад аднаго чалавека распаўсюджваецца на грамадства і цэлы свет, ствараючы глебу для халакосту ці іншых масавых забойстваў. Яўген Карняг прапануе ад жаночага перайсці да агульначалавечага. Калі гэта разумееш, то хочацца змяняцца (хаця б як жанчыне), каб услед мяняўся свет. Ці гэта не гуманізм у дачыненні да мяне як асобна ўзятага гледача? Даецца, праўда, балюча...

**Ларыса ЦІМОШЫК**

Працяг. Пачатак у № 18.

**Вольга ДАШУК,**
**рэжысёр дакументальнага кіно, лаўрэат міжнародных кінафестываляў**

# Мае героі

## Вельмі асабістыя нататкі дакументаліста



*Вольга Дашук падчас здымкаў фільма.*

Часам на здымках пабойваешся за самога сябе. Калі я пазнаёмілася са сваім першым героем — Леанідам Левіным — з фільма «Леанід Левін. Вайна і любоў», баялася, што мяне будуць не надта сур'ёзна ўспрымаць. Левін быў культавай фігурай у беларускай архітэктуры. Атрымаў у 1970 годзе Ленінскую прэмію, што было, як ён сам казаў, «нават не мара, а нешта большае». Апроч таго, што ён быў выбітны архітэктар, яшчэ займаўся грамадскай дзейнасцю, узначальваў суполку беларускіх яўрэяў. Я тады лічыла: калі Левін даведаецца, што гэта мой першы фільм, не будзе мяне слухацца, а, наадварот, пачне дыктаваць, што і як рабіць. Таму пастаралася схаваць факт сваёй недасведчанасці. Левін, аднак, аказаўся вельмі культурным і тактоўным чалавекам, які паважаў творчую свабоду іншага. А я, у сваю чаргу, здолела зрабіць на яго добрае ўражанне, і праз нейкі час у нас усталяваліся выдатныя адносіны. Выкрыў мяне выпадкова мой уласны аператар, калі захацеў пахваліць мяне перад Левіным: «Такі цудоўны фільм, а гэта ж яе рэжысёрскі дэбют!» Левін моцна здзівіўся, а я страшэнна раззлавалася на неабачлівага калегу. У рэшце рэшт, гэта была не такая ўжо і катастрофа, паколькі здарылася ўсё пасля таго, як Левін упадабаў гатовы фільм.



*Архітэктар Леанід Левін — адзін з герояў фільма Вольгі Дашук.*

Часам тыя штукі, што выкідаюць героі, з'яўляюцца не наўмыснай дэманстрацыяй, а проста лагічнай праявай іх характару. Аднойчы для фільма «Непамілаваны» я здымала Сяргея Ханжанкова, прыроджанага дысідэнта, які ў 1963 годзе ва ўзросце дваццаці гадоў, будучы мінскім студэнтам, арганізаваў маленькую групу з чатырох членаў, каб змагацца з савецкім рэжымам. Яны нічога не здзейснілі, а адзінай акцыяй, што паспелі запланаваць, быў падрыў велічэзнай сумнавядомай вышкі-глушылкі ў цэнтры Мінска, якая глушыла сігнал ад станцый BBC і «Голас Амерыкі». Як потым высветлілася, адзін з чатырох энтузіястаў быў інфарматарам КДБ. Ён паведамляў органам пра ўсе рухі маладой арганізацыі. Так, задоўга да таго, як падрыхтоўка да выбуху была завершаная, Сяргея Ханжанкова і ягоных двух паплечнікаў арыштавалі. Ён цалкам адсядзеў у мардоўскім лагеры дзесяцігадовы турэмны тэрмін. Я з ім сустрэлася некалькі год назад. Яму было каля сямідзесяці, аднак ваяўнічы дух яго нікольні не змяніўся. Сяргей хацеў неяк занатаваць памяць пра злачынствы сталінскіх часоў і таму напісаў афіцыйны ліст з цікавай прапановай — адкрыць у Беларусі Музей рэпрэсій — новая тэма, не прысутная ў беларускіх музеях. Месца для музея ён прапанаваў адпаведнае — так званую «Дачу Цанавы». Гэта быў невялікі будынак з 30-х гадоў, калісьці па-за гарадской рысай, а цяпер — недалёка ад галоўнага сталічнага праспекта. Ёсць сведчанні, што ў 1948 годзе там пры нявысветленых абставінах быў забіты знакаміты маскоўскі акцёр. Меліся і іншыя таямніцы, звязаныя з гэтым змрочным месцам. У 70-я дачу трансфармавалі ў дзіцячы садок для дзяцей супрацоўнікаў КДБ. Апошнія гады, у той час, як я сустрэлася з Ханжанковым, месца заставалася закінутым, зарасло бадыллём, знайшлі сабе прытулак тут бамжы. Ханжанкоў узгадаў сваю ідэю пра музей, і я вырашыла здымаць яго не ў цеснай гарадской кватэрцы, а тут, каля былой дачы Цанавы, у месцы з такой гістарычнай атмасферай. Сяргей ахвотна згадзіўся, тым больш што сам тут ужо нейкі час не быў. Але спярша трэба было гэты будынак агледзець самой, каб вырашыць, як здымаць. Сюрпрыз... Сам будынак і ўсё навокал знесена, проста зраўняна з зямлёй. Ні следу мінулага. І вось тут я зрабіла прафесійную памылку. Не магла паверыць сваім вачам, таму пазваніла Ханжанкову, каб пераканацца, ці туды прыехала, куды трэба. Ён вельмі расхваляваўся, як пачуў навіну. Аднак цвёрда абяцаў прыехаць сюды назаўтра зранку для здымак. Абяцанне не стрымаў. Ён, загартаваны змагар, прыбыў сюды адзін у той жа вечар. Калі назаўтра мы прыехалі разам, ён быў ужо спакойны і стрыманы, бо напярэдадні меў час адысці ад шоку. Мае надзеі на непасрэдную рэакцыю і эмацыянальную размову не спраўдзіліся.

Але ж, трэба заўважыць, што не толькі герояў — ідэальных рэжысёраў не бывае таксама. Амаль увесь час ты з нейкай прычыны незадаволены свамі героямі і часам клянеш іх рэакцыі. Уладзімір Залатар, апантаны фермер з майго фільма «11 манетак», меў тонкую натуру. Гэта значыць, быў гатовы заплакаць з розных нагод. Так, з аднаго боку, я была ў захапленні ад яго эмацыянальнасці. З другога — мяне засмучала ягоная празмерная адчувальнасць. Потым, падчас мантажу, я мусіла пазбаўляцца многіх слязлівых момантаў, каб ягоная сапраўдная драма не выглядала як камедыя.

Пры ўсім тым, калі герой з жалезнай вытрымкай і бясстрасны, гэта сапраўдны выклік для рэжысёра. Тады трэба ставіць героя ў нейкую сітуацыю, каб прымусіць паводзіць сябе па-іншаму.

Я так і зрабіла, калі пазнаёмілася з маім старым кінааматарам. Ён быў сам па сабе цікавы чалавек: адукаваны, член Саюза журналістаў, напісаў некалькі кніг па гісторыі роднага краю. Але як мы пачалі размаўляць, ён аказаўся «драўляны», кантраляваў кожнае сваё слова. Аднак прагнуў здымаць тое, што яму было важна, і гэта падказала мне рашэнне. Я далучылася да ягоных вандровак па пакінутых вёсках з іх нешматлікімі жыхарамі і назірала, як ён здымае, магчыма, свой апошні фільм. Для Анатоля гэта была балючая тэма. Сам родам з такой вёскі, ён не мог бачыць гэтыя мясціны занядбанымі і бязлюднымі. Мы пачалі з ягонай роднай вёскі, і гэта для яго было эмацыянальна найцяжэй. Ён расхваляваўся і забараніў мне здымаць руіны хаты, дзе ён нарадзіўся, зарослыя маляўнічым кустоўем. Тым не менш як радасна было бачыць, як Анатоль мяняецца з кожным здымачным днём. Ён пачаў па-іншаму абыходзіцца з сустрэтымі людзьмі і са мной. На пачатку даволі сухі і фармальны, ён рабіўся больш разняволеным, адкрытым і сардэчным. Гэта прынесла мне матэрыял, якога я чакала.

Працэс збліжэння з героем мае ў кожным выпадку свае асаблівасці, але ў прынцыпе схема простая: для гэтага патрэбны час. Спярша трэба проста быць у кантакце. Гэта можа цягнуцца тыднямі, часам месяцамі. Нават калі няма магчымасці асабістых сустрэч, на гэтай стадыі варта хоць бы перапісвацца ці размаўляць па тэлефоне. Так паціху будзе ствараюцца агульнае… Пры гэтым неабходная ўласная шчырасць. Увогуле, ты не павінен толькі пытаца герояў пра іх саміх, трымаючы ў таямніцы ўсё, што датычыць цябе самога. Узаемная адкрытасць, няважна, зацікаўлены ты ў гэтым ці не, нашмат больш прадуктыўная.

Як даходзіць да здымак, справы ўскладняюцца. Калі ўступаеш у стасункі з героямі, увесь час пытаешся сябе, дзе тая мяжа паміж шчырасцю і празмернай адкрытасцю з твайго боку? Гэта нармальна — сказаць героям, чаго ты ад іх чакаеш. Аднак не трэба тлумачыць ім увесь план і агульную ідэю фільма. Так ці інакш, гэта зашкодзіць. Калі героі цалкам разумеюць твой намер і не ўхваляюць яго, то зробяць усё, каб не даць зрабіць, што ты задумаў. Калі ж яны не супраць і ведаюць дакладна, што табе ў іх паводзінах падабаецца, непазбежна пачнуць іграць.

А натуральнасць паводзінаў герояў — вырашальная рэч. Сучасныя тэхналогіі без тых абмежаванняў, у якіх існаваў рэжысёр пры здымцы на стужку, значна дапамагаюць у гэтым. Можна здымаць доўгі час, практычна бясконца, і цярпліва чакаць жаданага моманту, калі герой, не зважаючы на камеру, зробіць нешта спантаннае ці скажа нешта неверагоднае і будзе пры гэтым самім сабой… Аднак многія рэжысёры на гэтым моманце натуральнасці не спыняюцца, а ідуць далей, да чыстай ігры. Героям даюць заданне граць у фільме саміх сябе, што яны і робяць. Яны замяняюцца вобразамі саміх сябе, як іх бачыць рэжысёр, яны такія, як ён хоча, каб яны былі.

Гэты падыход пазбаўляе рэжысёра нечаканасцяў і сюрпрызаў, якія можна перажыць пры іншым падыходзе і якія ўяўляюць такую каштоўнасць. Практычна кожны герой — гэта цэлы свет, толькі трэба яго адкрыць. Працэс узаемадзеяння з героем заўсёды поўны таямніц. Напрыклад, Уладзімір Залатар, мой фермер-энтузіяст, лічыў уменне прышчапіць садовае дрэва неад'емнай часткай жыццёвага досведу мужчыны. На ягоную думку, гэта была проста базавая рыса мужчынскасці, і калі хто гэтага не мог, не заслугоўваў права называцца сапраўдным мужчынам.

Паступова табе адкрываецца нешта, пра што ты і паняцця не меў. Гэта датычыць як тваіх прафесійных навыкаў, так і агульных ведаў. Часта здзіўляешся, наколькі рознымі і незвычайнымі могуць быць людзі.



*Кадр з дакументальнага фільма «Кінааматар. Восеньскі салон».*

**Працяг будзе.**

# Струнная феерыя,

## ці Актуальнасць цымбалаў

**Актыўны струмень творчасці, пастаянныя марафоны з конкурсаў і выступленняў, самаўдасканаленне і папулярызацыя беларускай народнай музыкі — у гэтым увесь ансамбль цымбалістаў «Беларусачка». Калектыў дзейнічае пры Мінскім дзяржаўным музычным каледжы імя М. І. Глінкі. Яго кіраўнік, дасведчаны педагог Людміла Чысціліна-Кулакова, распавяла пра тое, як трэба ўдасканальваць рэпертуар, чаму цымбалы — складаны, але актуальны інструмент і як заваёўваць сучасную публіку.**



*Фота з архіва ансамбля.*

*Ансамбль цымбалістаў «Беларусачка» — заўсёды на хвалі творчасці.*

Зусім нядаўна ансамбль прывёз з Санкт-Пецярбурга ў Мінск прэстыжную ўзнагароду — дыплом лаўрэата I ступені XI Міжнароднага імя М. М. Калініна Дзіцячага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах і вакалістаў «Мяцеліца».

«Нас уразіла атмасфера конкурсу. Журы было не толькі высокапрафесійным, але і надзвычай аб'ектыўным. Некаторым мясцовым музычным спаборніцтвам ёсць чаму ў іх павучыцца. Што нам дапамагло перамагчы? Шчырая зацікаўленасць дзяцей і мэтанакіраванасць. Рыхтаваліся яшчэ з верасня. Старанна падбіраўся рэпертуар. Вядома ж, беларускія аўтары былі ўключаны. Стараюся пры кожнай магчымасці распавядаць пра нашу музыку, папулярызаваць сам інструмент, уключаць наватарскія элементы, рабіць перакладанні і аранжыроўкі», — распавяла Людміла Чысціліна-Кулакова. Адна з яе задумак — выкарыстоўваць на канцэртах, напрыклад, аўтэнтычныя цымбалы, якія адрозніваюцца ад класічных і формай, і прыёмамі. Ансамбль часта ўводзіць дадатковыя інструменты — дудкі, жалейкі.

На «Мяцеліцы» калектыў «Беларусачка» выканаў праграму з чатырох твораў. Усе вельмі розныя. Ад моладзевага «Рэгтайму» кампазітара Хенрыка Кузняка да беларускай народнай песні «Шуміць лісце, шумяць вербы». У «Мяцеліцы» ўдзельнічаюць не ўпершыню. І кожны раз прывозяць узнагароды. Пра перамогу на гэты раз даведаліся ўжо ў цягніку. Адной з салістак атрымалася адыграць на шыкоўнай сцэне разам з аркестрам.

Наогул «Беларусачка» — у пастаянным руху. Не так даўно ладзілі канцэрт у Белдзяржфілармоніі. Пры выбары кампазіцый зыходзілі з пажаданняў слухачоў. Гэта адзін з ключавых прынцыпаў калектыву. Да гэтага — тры конкурсы запар. «Пецярбургская вясна», «*Star Show*», «Зорныя кветкі». І ўсюды першыя месцы. «У Беларусі дастаткова музычных "спаборніцтваў", але з узроўнем "Мяцеліцы" я б супаставіла Міжнародны конкурс выканаўцаў на нацыянальных шматструнных інструментах імя В. Гарадоўскай. Сімвалічна, але з яго мы і стартавалі калісьці, у 2004 годзе, калі яшчэ толькі пачыналася актыўная творчая дзейнасць ансамбля», — адзначыла Людміла Чысціліна-Кулакова.

У рэпертуары яны спалучаюць музыку розных эпох, стыляў і жанраў. Беларускае як абавязковы элемент. «Беларусачка» мае статус народнага аматарскага калектыву з 2010 года. Для гэтага, зразумела, была праведзена каласальная праца, у чым заслуга ў першую чаргу кіраўніка. Справаздачныя канцэрты ў Белдзяржфілармоніі, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Нацыянальнай бібліятэцы нашай краіны — для юных навучэнцаў каледжа гэта не жарты. Сама Людміла Чысціліна-Кулакова калісьці была ў складзе ўзорнага ансамбля цымбалістак Мінскай музычнай вучэльні пад кіраўніцтвам Тацціяны Сцяпанавай, таксама выдатнага кіраўніка, стала дыпламантам V Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады яшчэ ў 1975 годзе, брала ўдзел у Днях культуры Беларусі ў Літве і Украіне, канцэртах на пляцоўках Вялікага тэатра СССР, Крамлёўскага палаца з'ездаў... Мае вялікі досвед працы ў фальклорных ансамблях.

«У ансамблі трэба дамагацца адзінага ўдару, штрыхоў і дыхання. Гэта не так проста — дайсці да поўнай сінхранізацыі. Ды і самі цымбалы, насуперак распаўсюджаным думкам, інструмент даволі складаны. Па колькасці струн — як палова раяля. І процьма нюансаў. Але за ім будучыня, я веру. Кампазітары, у тым ліку і беларускія, працягваюць пісаць для нас. Праўда, у тэхнічным плане ёсць праблемы. Фабрыка, што выпускала цымбалы раней, ужо не працуе. Інструменты даводзіцца шукаць у асобных майстроў, і яны не заўсёды ў ідэальным стане», — тлумачыць Чысціліна-Кулакова. Чаму б не дапамагчы музыкантам? Тым больш ансамбль «Беларусачка» з'яўляецца стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Акрамя конкурсаў, маладыя дзяўчаты з калектыву (зараз іх усяго пяць: з першага, другога і трэцяга курса каледжа) выступаюць у дзіцячых дамах, шпіталях, інтэрнатах, на гарадскіх майстэрнях, прымеркаваных да святаў, у музеях на адкрыцці выставак… Ладзяць абменныя канцэрты са школамі. Імкнуцца, каб кожная праграма дайшла да слухача. І, ведаеце што, школьнікі запытваюцца: «Калі ўжо чарговае выступленне?». Публіка гатова іх успрымаць з задавальненнем. Пустых залаў не бывае. У чым сакрэт? Па словах кіраўніка, пастаяннае абнаўленне рэпертуару. Яны заўсёды ўкладваюцца ў рэгламент і не перагружаюць слухачоў, спалучаючы і папулярныя хіты, і класічныя творы. Так званая залатая сярэдзіна.

Ансамбль «Беларусачка» рэгулярна ўдзельнічае і перамагае на рэспубліканскім фестывалі «Срэбны звон цымбалаў». За 11 гадоў творы ў выкананні таленавітых цымбалістак гучалі на самых розных пляцоўках: ад Храма Хрыста Збавіцеля да Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы імя М. І. Глінкі. Цымбалы адлюстроўваюць наш, беларускі, стан душы, менталітэт. Гэта яшчэ раз пацвярджае, наколькі ўніверсальны інструмент, што незаслужана сярод некаторых, лічыцца старажытным, адыходзячым. І як многа мы яшчэ пра яго не ведаем.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Тэхніка чароўных гукаў

**Яшчэ адна нагода наведаць музей Лошыцкай сядзібы з'явілася ў мінчан і гасцей сталіцы — тут працуе выстаўка фанографаў, грамафонаў і патэфонаў.**



Экспазіцыю пад назвай «Нараджэнне гуказапісу» склалі каля 60 рарытэтных прайгравальнікаў з прыватнай калекцыі Ігара Барысевіча, які ўжо дзесяць гадоў збірае і аднаўляе апараты. Сёння ў яго калекцыі — прайгравальнікі розных відаў і памераў з усяго свету і каля тысячы грампласцінак.

«Дзякуючы выстаўцы можна прасачыць за гісторыяй гуказапісу, — распавяла навуковы супрацоўнік установы Лізавета Мірошнікава. — Найстарэйшы экспанат датуецца 1897 годам. Прадстаўлены экспанаты з Англіі, ЗША, Швейцарыі, Латвіі, Францыі, Германіі...».

Першы прыбор для прайгравання гуку — фанограф — стварыў Томас Эдысан. Яго палічылі чараўніком, а вынаходніцтва хутка набыло вялікую папулярнасць. Гук запісваўся ў форме дарожкі на цыліндры, які круціўся. Экспазіцыю адкрываюць некалькі ўнікальных фанографаў Томаса Эдысана, а таксама апараты «*Columbia*» і «*Pathe*».

Пазней у фанографа з'явіўся канкурэнт — грамафон, вынайдзены Эмілем Берлінерам. Ён удасканаліў апарат — прапанаваў выкарыстоўваць дыскі замест цыліндраў. Хутка кампаніі па стварэнні грамафонаў сталі з'яўляцца па ўсім свеце. На выстаўцы прадстаўлены самыя вядомыя з іх — «*Amour Record*», «*His Master's Voice*» ды інш.

А яшчэ праз два дзесяцігоддзі французская фірма «*Pathe*» прадставіла патэфон. Гэты партатыўны акустычны апарат са схаваным рупарам быў больш зручным і кампактным і таму вельмі папулярным падчас пікнікоў і прагулак.

Экспанаты, прадстаўленныя на выстаўцы, — не проста тэхнічныя прылады, але сапраўдныя творы мастацтва. Мода на прайгравальнікі трымалася шмат гадоў і лічылася знакам багацця: іх вырабам займаліся лепшыя дызайнеры і майстры.

Яскравае дапаўненне да экспазіцыі — калекцыя грампласцінак, якія можна паслухаць. Адметна, што ўсе апараты працуюць, і таму ў наведвальнікаў ёсць магчымасць атрымаць асалоду ад якаснага сакавітага гучання. Старадаўнія вальсы і рамансы, рытмы танга і рок-н-рола… Каб ацаніць усе асаблівасці чароўнага музыкальнага гуку, трэба завітаць у Лошыцу!

**Ганна ПАЛЯКОВА, фота аўтара**

# Рамантыка Скандынавіі

## Ад класікаў да сучаснай музыкі ў традыцыях Армстранга

**Заўтра ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі Сімфанічны аркестр «*Capella Academia*» і Мінскі госпел-хор (госпел — жанр духоўнай хрысціянскай музыкі) прадставяць унікальную музычную праграму «Карона скандынаўскага архіпелага».**

Упершыню ў Беларусі прагучыць музыка дацкага кампазітара, скрыпача Карла Нільсана і шведскага кампазітара і дырыжора Тора Аўліна. Акрамя меладычных твораў прадстаўленых музыкантаў у першым аддзяленні будуць гучаць неверагодныя фінскія і нарвежскія кампазіцыі: уверцюра «Фінляндыя» Яна Сібеліуса і некаторыя фрагменты з «Пер Гюнта» Эдварда Грыга.

У другім аддзяленні канцэрта мінскую публіку будзе чакаць сапраўдны сюрпрыз: разам з сімфанічным аркестрам і госпел-хорам выступіць спецыяльны госць — дацкі кампазітар, саліст, стваральнік шматлікіх музычных фестываляў у Еўропе і Амерыцы Ганс Хрысціян Ёхімсэн. Творца прадставіць свае сусветна вядомыя хіты ў традыцыях знакамітага Луі Армстранга.

Прадстаўленыя ў праграме музычныя творы — сімфанічныя шэдэўры. Таму вельмі прыемна, што на пачатку лета мінская публіка, зацікаўленая музыкай, атрымае магчымасць натхніцца сусветна вядомымі мелодыямі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Прыватнае жыццё

## Стасункі чалавека з асяроддзем вачыма Таццяны Радзівілка

Часам здаецца, што чалавек як маленькае дрэўца: куды падзьме вецер, туды і імкнецца. Як жа зрабіць, каб вецер заўсёды дзьмуў у патрэбны бок? Над філасофіяй чалавечага выхавання і яго адносін да асяроддзя ў творчым праекце «*Time*, альбо прыватнае жыццё», што дэманструецца ў мастацкай галерэі «*DK*», паразважала мастачка Таццяна Радзівілка.

Арыгінальная стылістыка і абсалютна нязвыклая падача сюжэта ўводзіць гледача ў нечаканы мастацкі гіпноз. Узаемадзеянне вобразаў на светлых палотнах спісанае са штодзённых жыццёвых сітуацый: людзі вырашаюць, што мацней — яны ці працэсы наваколля. Героі не здольныя знайсці правільныя адказы на пытанні, бо іх немагчыма адшукаць у стане разгубленасці. Героі ў пошуках новага штодзённага шляху.



«Купальшчыцы», 2011 г.

Назва выстаўкі цесна перамяжоўвае час і асабістае жыццё. Аўтар не падзяляе прадстаўленыя складнікі, а, наадварот, звязвае іх у цесны вузел. Прыватнае жыццё — быт, стасункі ўнутры сям'і, асабістыя заняткі і захапленні, а час — маштабная платформа для асабістага, што дае магчымасць змяніць сябе, светаўспрыманне (галоўнае, каб чалавек гэта разумеў) і пайсці насустрач дабрыні, лёгкасці. Калі няма часу, ніводнай хвіліны, каб штосьці змяніць, зрабіць, сказаць… Ці не гэта самае страшнае?

На першае месца Таццяна Радзівілка выносіць менавіта прастору. Гледзячы на мастацкі твор, вобразы людзей заўважаеш не адразу. На большасці карцін яны паказаны невялікімі, нібыта схаванымі ад вока. Такі падыход — відавочны акцэнт аўтара на пераваze прыроды і наваколля над чалавекам. Мастачка даказвае, што знешнія фактары здольныя ўплываць на лёс чалавецтва як станоўча, так і разбуральна, негатыўна. Увогуле, чалавек, па меркаванні творцы, кожную хвіліну павінен змагацца за месца пад сонцам, а не абы-якава скласці рукі і паддацца аморфнасці і ляноце. Жыццё — заўсёды рух, кругаварот падзей, дзе трэба паспець схапіцца за ісціну.

Мастачка часцей за ўсё працуе з вялікімі палотнамі, лічыць іх больш дыялагічнымі, інтэрактыўнымі. Сапраўды, карціна вялікага памеру заўсёды прыцягвае. Глядзіш, і здаецца, ты ўжо знутры сюжэта. Адчуваеш сябе галоўным героем: праходзіш выпрабаванні, вырашаеш задачы, пастаўленыя аўтарам.

Экспазіцыя «*Time*, альбо прыватнае жыццё» незаўважна выклікае асацыяцыі з момантамі дзяцінства. Тут адбываецца пераацэнка каштоўнасцей і жыццёвага выбару. Усе нашы мары пачынаюцца з дзяцінства, і тое, наколькі яны ажыццявіліся, залежыць ад унутранага жадання і мэтанакіраванасці. Таму вяртанне ў свет перажыванняў маленства — добрая магчымасць прааналізаваць сябе як асобу, стварыць агульны вынік мінулага і сённяшняга, тым самым паспрабаваць прадумаць удалую канцэпцыю будучыні.

Таццяна Радзівілка — майстар мастацкай метафары. Сюжэты яна не прыдумляе — бачыць іх паўсюль: у краме, у басейне, на возеры і дома… Творца прынцыпова не заканчвае работы: прапануе гледачу асэнсаваць мастацкую ідэю палатна, адчуць яго глыбіню і ў выніку самастойна дадумаць, чым жа скончыцца аўтарскі сюжэт. Мастачка спадзяецца, што выпадковая развага над сюжэтам карціны будзе своеасаблівай праекцыяй на асабістае, магчыма, складанае, і калісьці досвед развагі над творчасцю дапаможа гледачу вырашыць важныя асабістыя пытанні.

**Вікторыя АСКЕРА**



«Прыватнае жыццё», 2014 г.



«Фунікулёр», 2009 г.

## *Культурны ракурс*

Музей-сядзіба Якуба Коласа «Акінчыцы» ў горадзе Стоўбцы адкрыты для наведвальнікаў у 1982 годзе. З таго часу актыўна працуе і ладзіць розныя культурныя мерапрыемствы. Збіраюцца госці з усёй Беларусі і іншых краін.



Акінчыцы ў мінулым — маленькая вёска, якая пасля 1970 года была ўключана ў межы горада Стоўбцы. Назва пайшла ад прозвішча шляхціца Акінчыца, які атрымаў у дар ад князя Радзівіла невялічкі кавалак зямлі. Менавіта Акінчыцы сталі першым месцам службы Міхала Міцкевіча, бацькі народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Тут будучы творца і нарадзіўся.

Каб спазнаць душу паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Патрапіўшы ў музей-сядзібу «Акінчыцы», адразу заўважаеш і прыгажосць навакольнай прыроды, і ўтульнасць сялянскай хаткі. На тэрыторыі сядзібы разам з домам можна пабачыць гумно, склеп, студню. У хаце ж прадстаўлены і сапраўдныя прадметы быту сям'і Міцкевічаў. Адразу неяк трапятліва робіцца на душы: тут жыў вялікі чалавек, які… слова пра родную зямлю пранёс праз усё жыццё і падарыў нашчадкам.

**Аляксандр ЗЕЛЯНКО**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 2.06.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1752.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2265

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686